# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 9 (229) (верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus




**Змест**





**ФОРУМ**

# На бязлюдным чытацкім востраве?

Стась ПРУДСКІ

Калі топішся, то і за саломку схопішся...

Прыказка. Народная мудрасць. Гучыць складна, нават літаратурна. Аднак — які толк з таго? Лішнія, марныя ілюзіі. Але...

У прадмове да кнігі апавяданняў 1924 года Аляксей Талстой задаваў такое пытанне: «Ці знайшоўся б хоць адзін дзівак пісьменнік, які, калі б апынуўся, як Рабінзон, на бязлюдным востраве, працягваў бы і ў гэтых выключных умовах складаць п'есы, раманы, апавяданні, вершы?» Адказ, на ягоную — Аляксея Талстога — думку, мог бы быць толькі адназначны: не.

А якраз так, хоць і на заселеным, але «пустым» востраве, мусяць існаваць сёння беларускія пісьменнікі. Як у метраполіі, так і ў дыяспары-эміграцыі. Прынамсі, пераважная іх большасць, найзаслужаных, цяпер — «няправільных», «нячэсных», «неафіцыйных» колішніх членаў ліквідаванага старэйшага пісьменніцкага Саюза Беларусі.

Усе тыя сённяшнія іхнія рукапісы-машынапісы ў сталах, інтэрнэт-самвыдаты, не больш за сотню цудам выдрукаваных кніг — як тыя лісты ў бутэльках, кінутыя з бязлюднага вострава.

Літаратурны ж афіцыёз — і ў школьных праграмах, і ў кнігарнях, і ў бібліятэках, — прызнаемся, гэта не мэйнстрым нацыянальнай літаратуры, а ў асноўным напаўпрафесійная «літаратурная прадукцыя». Зрэшты, мэйнстрымам-узорам (вакол нашага бязлюднага вострава) не можа быць — як некалі хацц б у савецкія часы — і сучасная беларуская (моўная) журналістыка. Вось толькі адна зацемка ў ТГ колісь паважанай газеты «Звязда» (27 ліпеня 2025 года): «<...> змены ў бялковым профілі тканін адбываюцца нераўнамерна. <...> Асабліва адчувальна хутка старэюць крывяносныя пасудзіны і іншыя органы»... І гэта — у адным толькі абзацы! Відавочна, што белафіцыёзу не можа дапамагчы калі не свой, дык нават штучны інтэлект і ягоныя Google-перакладнікі.

І аніякая выратавальная «саломінка» дапамагчы ў катастрафічным бязлюдным становішчы ўсім нам не можа. І аб паратунку няма да каго крычаць — бо востраў жа (краіна) бязлюдны! Ну і хай не крыўдзяцца шаноўныя грамадзяне Блакітнавокай. Запаўняюць жа яны (за 20 ці 40 сваіх рублёў) новы беларуска-кітайскі футбольны стадыён на мінскім Партызанскім праспекце ў колькасці сваёй 25 — 30 тысячаў на матчы Беларусь — Расія (пройгрышным, дарэчы), а кнігу за тыя ж, а то і значна меншыя грошы купіць не хочуць. Больш за тое, і бясплатна, думаецца грэшна, не ўзялі б. Бо — навошта? Ды яшчэ і чытаць на гэтай «непатрэбнай» белмове (ды і русмове) не будуць. Не чытаюць у аграмаднай сваёй амаль дзесяцімільённай большасці. «Зачэм?» Тры ж дзесяцігоддзі іх бесперапынна прывучалі: не наясіся ж з той кнігі ды яе культуры. Ды калі тапіцца будзеш — як і тая саломінка, — яна не выратуе...

А хочацца, як і раней, паспалітаму нечытачу хлеба і відовішчаў. Як сёння — бульбы і футбола (хакея et cetera).

«<...> цяпер голас пісьменніка прыдушаны шумам: тэлевізара, Telegram-каналаў, сацсетак. І боль (які "транслюе" літаратура — Рэд.), калі ён застаецца без пытанняў, ператвараецца ў тупік», — прызналася ў сваёй гутарцы 2025 года нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч.

У своеасаблівы тупік на бязлюдным востраве...

Аднак літаратура (шырэй — творчасць) існуе, жыве і, не зважаючы ні на што, будзе пачута, як тая легенда пра міфічнага цара Мідаса.

У тога цара былі asліныя вушы, якія ён хаваў пад адмысловай шапкай. З усіх падначаленых толькі адзін чалавек мог бачыць гэты царскі недахоп: ягоны цырульнік. Апошніх даводзілася пасля стрыжкі забіваць. Але аднойчы цар пашкадаваў хлопчыка-цырульніка — і не забіў яго, а ўзяў слова-клятву, што ніколі і нікому той не раскажа пра тыя асліныя вушы. Інакш яго таксама чакацьме смерць.

Але таямніца аказалася для хлопца настолькі цяжкай, што ён не мог стрымлівацца — выкапаў ямінку і крыкнуў у яе: «У цара Мідаса — асліныя вушы!» На месцы той ямінкі вырас трыснёг, які затым зрэзаў пастух і зрабіў дудку. І яна праспявала людзям аб тым, што ў цара Мідаса — асліныя вушы...

І сучасная беларуская літаратура — гэта тая ж пастухова дудка, а праца цяперашніх беларускіх пісьменнікаў — той жа «крык у яміну» ў спадзеве, што з яе вырасце чароўны трыснёг. Як той «крик вопиющего в пустыне».

А каб «каб сонца засланіць, вушэй асліных мала»...

Беларуская літаратура — літаратура-«падранак». Бітая-перабітая, ламаная-пераламаная, страляная-нестраляная. То забарона на яе афіцыйны друк у Расійскай імперыі, то бальшавіцкія рэпрэсіі, то савецкія цэнзары, то новыя забароны...

І колішняя «партызанская» рэспубліка сёння стварае «партызанскую» літаратуру. І партызаняць у сімвалічных беларускіх інтэрнэтлясах — непераможныя кнігапісцы, кнігавозы і кнiганошы, закідваючы з бязлюднага вострава сімвалічныя бутэлькі з пасланнямі. А раптам хтось знойдзе і прачытае...

*P. S.* Адна з рэальных і відочных выяў з нашага «вострава». У яго сталіцы на скрыжаванні вуліцы імя народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля ды імя канцлера ВКЛ Льва Сапегі быў адкрыты «Сад вершаў». Упарадкаванае месца адпачынку і духоўных медытацый, акуратныя тратуарныя ходнікі, лаўкі ў выглядзе разгорнутых кніг, грунтоўныя білборды ў чалавечы рост з выявамі беларускіх паэтаў ды іх вершаў... Па тым ходніку прагульваецца маладая сям'я: бацька, маці, у калясцы — немаўля. Стопрацэнтова — мясцовыя (з недалёкага дзевяціпавярхоўка) ды ім усё падабаецца. І мужчына гучна-здзіўлена пытаецца ў сваёй жонкі: «А что такое... *вершаў*?»...






# Жыццё пражыць і поле перайсці



Мікола СЯНКЕВІЧ

### Жывая вада

У першыя дні траўня адчыніў дзверы ў асірацелую з восені бацькоўскую хату і адразу ўлавіў непрыемны, рэзкі пах. Шукаючы, адкуль ён ідзе, найперш зазірнуў у пакінутыя на прыпеку чыгункі і каструлі — не, не ад іх. Нагнуўся, пасвяціў у падпечча: мо які пацук спруцянеў з галадухі. Зноў не. Адтуль нязлосна патыхала плесняю і падгнілай бульбай. Нарэшце дайшло: пах ідзе ад вядра з вадой, што стаяла на лаве ў кутку.

Пажыўшы, ведаю, як пахне балотная твань і збуцвелая вада ў закінутай сажалцы, густая жыжа ў вязкім бродзе — пасля таго, як ператаўчэ яе шумны статак; ведаю, як тхне ад перасохлай грэблі, на дне якой засталіся адно толькі набухлыя апалонікі ды рыбіны скелеты. Дух ад вядра быў яшчэ больш непрыемны. Да гэтага часу я не мог сабе ўявіць, што так атрутна, удушліва можа пахнуць чыстая, жывая калодзежная вада, якая перазімавала і прастаяла весну ў апусцелай хаце. А яшчэ ж з паўгода таму ёю было не адпіцца.

Доўга чысціў і паласкаў вядро, а пасля ўсяго дакараў сябе за тое, што выліў пратухлую ваду заблізка ад хаты, бо ад травы пахла невядома чым, аж пакуль не ўпала раса.

А вось «магазінная» вада ў пачатай пластмасавай бутэльцы як стаяла на лаўцы побач з вядром, так і засталася стаяць. Не пахла...

Памерці можа толькі тое, што некалі было жывым.

### Ыых!!!

Рана прачнуўся і нешта ўхадзіўся за паўдня. Паабедаўшы, падбіў падушку, не распранаючыся лёг на спіну, адкрыў фэйсбук і пачаў праглядаць навіны. Пасля дайшла чарга да вершаў. Іх тут бывае нямала — «харошых і розных». Неспадзявана навалілася дрымота, смартфон выслізнуў з рук. Прахапіўся — і як токам прабіла, калі ўсвядоміў, што, не жадаючы таго, адправіў у якасці водгуку на паэтычны твор паважанага аўтара нешта несуразнае, тыпу «ыых...» з тузінам розных знакаў і сімвалаў. Я пачаў сутаргава націскаць на ўсе значкі, пакуль не зразумеў, што выдаліць з ленты свой адметны пост не атрымаецца, не налаўчыўся пакуль што. А мо неяк яно абыдзецца?..

Абышлося. Магу толькі здагадвацца, хто і што пра мяне падумаў, але... ужо праз хвіліну атрымаў падабайку ад аўтара, а следам яшчэ з паўдзясятка лайкаў ад віртуальных сяброў. Крыху супакоіўся, між тым зрабіў для сябе выснову: з інтэрнэтам трэба быць больш абачлівым, каб наступным разам у падобным выпадку не адправіць у віртуальны свет нешта кшталту «ххуууу!!яяя». Сорамy не абярэшся.

### Божыя птушкі

Першае лета ў вёсцы без мамы... Апошнія гады яна жыла з намі ў горадзе, і хата заставалася без належнага прыгляду. Вымятаў смецце, пераклейваў шпалеры, наводзіў парадак у шафах, каб можна было ў любы час прыехаць і застацца.

На тым месцы, дзе раней раскашавала бульба, на свежых пракосах расклаў выцягнутыя з хаты на зыркае сонца падушкі, пярыны, зімовую вопратку ды іншае дабро, што назбіралася за многія дзясяткі гадоў. Паўтарыў гэта і раніцай наступнага дня, як толькі сышла раса. Белыя падушкі, яркія коўдры і посцілкі было відаць здалёк.

Калі ўжо добра звечарэла, у старым гняздзе на слупе ўбачыў бусла. Птушкі зракліся свайго жытла адразу пасля таго, як на дзвярах хаты павіс замок. І вось прыляцелі. Двое. Стаяць. Пра нешта разважаюць... Ці не пра тое, каб вярнуцца ў роднае гняздо, раз хата ажывае, вядро ў студні бразгоча, малыя, мае ўнукі, гойсаюць на падворку.

Сцямнела зусім. Ідучы спаць, як умеў, перахрысціў гаспадароў старой буслянкі (хочацца верыць, што гэта былі яны) з думкай пра тое, каб засталіся ці хоць бы вясной вярнуліся, калі цяпер ужо позна. Мо і збудзецца. Божыя птушкі... І я ж, як-ніяк, чалавек пахрышчаны.

### У нядзелю

«Наплывае яно...»

Прасторны пакой, перагароджаны трыма шафамі, што стаяць упрытык. Шафы з люстрамі, па модзе шасцідзясятых гадоў. Нядзеля. Бацькі намерыліся ісці ў госці да родзічаў у суседнюю вёску. Вернуцца позна. Мы з малодшым братам ужо атрымалі дакладныя інструкцыі і настаўленні па гаспадарцы: не пераблытаць вёдры з кормам для вепрука і парасят, сустрэць карову з пашы, загнаць у хлеўчык гусей, закрыць курэй на седале, — і цяпер сядзім на нядаўна купленай «гарадской» канапе і, сціснуўшыся, назіраем, як маці збіраецца ў госці. Яна распускае валасы, доўга расчэсвае іх грэбенем, нахіляючы галаву ўправа і ўлева, пасля збірае валасы ў высокую прычоску — гундзель.

Маці надзвычай пасуе чорная, у яркія макі шаўковая сукенка — вузкая ў таліі і шырокая ўнізе, з белым адкідным каўнерыкам і такімі ж белымі манжэтамі. Асаблівую святочнасць надаюць ёй крыштальная брошка і пояс са спражкай. Зашпільваючы яе, маці паварочваецца перад люстрам, прыўстае на дыбачкі. Пасля гэтага яна беліць пудрай абветраны, запечаны на сонцы твар, выціскае крэм на мазолістыя рукі.

Застаецца выбраць хустку. Іх у маці дзясяткі паўтара, ад трох дарагіх яе сэрцу братоў, кожны з якіх сваю дачушку-першынца назваў імем старэйшай сястры. Тут маці патрэбна ўжо наша дапамога, і мы з братам наперабой раім, якую з хустак выбраць. Гэта няпроста: яна прыгожая ў кожнай.

Бацьку прасцей. У яго ўсяго адзін парадны касцюм ды некалькі светлых кашуль. Гальштук таксама адзін. Пагаліўся бацька з самага ранку. Маці нажніцамі падрэзала яму абвіслыя бровы, папраўла заціснуты гальштукам каўнер кашулі, паклала ў кішэню чыстую насоўку, хоць і ўпіраўся, пырснула адэкалонам. Бацька сядзіць на кухні перад расчыненымі ў хату дзвярыма, курыць і таксама назірае, як збіраецца маці.

Глядзіць, не прыспешвае.

### Што больш

Пад сярэдзіну шасцідзясятых гадоў гэта было, на хутары Паянтрым. Паспрачаліся мы са стрыечным братам, што больш: дзевяноста ці сто. Ён, першакласнік, з месяц як пайшоў у школу і шмат чаго расказваў малодшаму за яго на год родзічу: найбольш страшыў, пералічваючы, за якія грахі мяне абавязкова паставяць у куток. Як і ён, я ведаў усе літары, больш-менш паспяхова злучаў іх у склады. У матэматыцы ж мы абодва, як цяпер разумею, арыентаваліся ў межах першага дзясятка — выручалі пальцы. А



Фота pxhere.com

яшчэ ўмелі — не збіваючыся — лічыць прыкладна да 29, — далей ішло «дваццаць дзесяць», словам, цёмны лес. Дык вось, брат-першакласнік даводзіў, што сто больш за дзевяноста, я ж — настойваў на сваім: дзевяноста больш. Логіка шасцігодкі была жалезная: дзевяноста — даўжэйшае слова: «у ім» сто ды яшчэ «дзевяно...»

Што цікава, мой родзіч згадзіўся. У мяне атрымалася-такі яго пераканаць. Вось што значыць логіка, якая ні ёсць.

### Па ранжыру

Абласная газета святкавала чарговы юбілей. На ўрачыстым пасяджэнні ў Доме палітычнай асветы супрацоўнікам ардэнаноснага выдання ўручаліся граматы, нагрудныя знакі і каштоўныя падарункі. Пасля святочнага канцэрта ўсе тыя, хто меў білеты «асобага ўзору», сабраліся ў банкетнай зале прэстыжнага кафэ. Тут былі ідэалагічныя работнікі высокага рангу, аўтарытэтныя кіраўнікі прадпрыемстваў, пра самаадданую працу якіх расказвала газета сваім чытачам і якія, у сваю чаргу, падтрымлівалі яе матэрыяльна.

Варта заўважыць, што гасцей было адносна няммнога, і я, на той час пазаштатны карэспандэнт і кіраўнік літаратурнага аб'яднання пры газеце, нават заганарыўся, што асабіста атрымаў з рук рэдактара запрашальны білет на святочную вячэру. Яшчэ вышэй вырас ва ўласных вачах, калі па правую руку ад сябе пазнаў вядомага ўсім калгаснага старшыню, на той час ужо двойчы Героя працы. Кінуўшы вокам на невядомага яму суседа (чорт ведае, хто ён такі, выпадковых людзей тут быць не павінна!), паважаны старшыня яшчэ да першага, афіцыйнага, тосту ўручыў мне прыгожую глянцавую візітоўку з доўгім спісам ганаровых званняў і дзяржаўных узнагарод. Я шчыра падзякаваў, паклаў дакумент у нагрудную кішэню і, як чалавек культурны, намерыўся зрабіць камплімент кшталту: «Няма чалавека, якому не было б знаёма ваша прозвішча!», але мой сусед ужо гаварыў з маладжавай загадчыцай сельскагаспадарчага аддзела. Праўду сказаць, да канца банкета ён да мяне так і не павярнуўся.

А застолле ішло сваім парадкам. Чыноўныя госці па чарзе з гаспадарамі падымалі тосты. Усе прысутныя добра ведалі адно аднаго, у той час як мяне, акрамя рэдактара ды адказнага сакратара, знalі ўсяго толькі двое ці трое маладзейшых газетчыкаў. Я прадчуваў, што тамада, вядомы ў ідэалагічных колах як «дацкі» паэт і гарманіст, не дасць слова пазаштатнаму супрацоўніку ні пятым і нават не шостым па ліку, тым не менш пасля тоста «за жанчын» пачаў хваляваццa, каб не схібіць, як надыдзе мая чарга. Ужо трэцюю чарку я спалавініў, ад чацвёртай і пятай адпіў па глытку, а ўсе наступныя толькі падносіў да вуснаў і адстаўляў. Добра, што нікому да гэтага не было аніякай справы.

Пасля кожнага больш ці менш удалага спіча я прукручваў у памяці загадзя падрыхтаваны тост, рэдагуючы і падкарачаючы яго: каб і з гумарам, і часу ў людзей не займаць. Іншы раз мне здавалася, што ўстану — і не скажу нічога звязнага. Сорамy тады не абярэшся. А хлопцы-газетчыкі гаварыць навучыліся спраўна, як і выпіваць. Ідэолагі — тым больш.

Мінула другая і трэцяя гадзіна застолля, усё менш заставалася тых, хто пакуль што маўчаў. Пяцёра, чацвёра, трое... У мяне ўзмакрэў лоб, у руках дрыжала гарачая чарка. Ну, вось зараз, нарэшце...

І тут... У галаве стала́ падняліся са сваіх месцаў тыя, хто гаварыў першым, каб падзякаваць гаспадарам за хлеб-соль. Следам за імі ўсталі і ўсе астатнія. Ужо стоячы, я дапіў кроплю, што блішчала на дне шклянкі, прамачыў перасохлае ад хвалявання горла. Так і выйшаў з-за стала цвярозым, адчуваючы сябе поўным ёлупнем. Эх, каб жа наперад знаць!..

А тост быў важнецкі. Пасля я прыладзіў яго ў другім месцы. Не прападаць жа дабру.

### Жыццё пражыць і поле перайсці

Сцежка ад цягніка да агарода, дзе я ўжо чвэрць веку саджаю бульбу ды капусту, спачатку ідзе праз сасновую пасадку, а пасля перасякае шырокае поле. Штовосень, калі сабраны ўраджай, гэтая ўкамянелая сцежка заворваецца, а з надыходам дачнага сезона аднаўляецца зноў. Ідзе час, і яна паступова хаваецца то ў жыце, то ў аўсе, а найчасцей — у кукурузе, якая тут добра расце. Сцежка вузенькая, абганяць на ёй нязручна, акрамя ўсяго, кожны з агароднікаў у душы разумее, што грашыць, топча пасеянае, таму і стараецца не збочваць. Самыя нецярплівыя, каб не губляць дарэмна часу, адразу з цягніка, яшчэ да поля, прыспешваюць крок і выбіваюцца ў групу лідараў.

Той раніцай я напланаваў многа чаго зрабіць, таму не выпадкова аказаўся першым у звілістым ланцужку агароднікаў. Ступіў на толькі што перааранае поле, выбраў арыенцір, на які павінна выйсці сцежка, прайшоў упэўненым крокам з дзясятак метраў па свежай раллі і спыніўся ў разгубленасці: далей па полі быў раскіданы... Не, не гной. Трактар, ён тарахцеў непадалёку, раскідваў глей, вывезены з гарадскіх ачышчальных збудаванняў. Пах ад яго яшчэ той... Павярнуць назад не было аніякай магчымасці, і, хвіліну павагаўшыся, я рушыў далей, стараючыся выбіраць больш-менш чыстыя лапіны раллі. Аднак хутка зразумеў, што гэта не дапаможа, і перастаў глядзець пад ногі. У выніку замест таго, каб упарадкоўваць градкі, давялося шараваць абутак ды паласкаць загаджаныя да кален калашыны, імкнучыся адбіць едкі пах. Што й казаць, настрой быў сапсаваны на ўвесь дзень.

Вечарам, калі цягнуўся да прыпынку кругавой дарогай, успамінаючы ранішнія прыгоды, ні з таго ні з сяго «прычапіўся» да бяскрыўднай народнай прыказкі: «Жыццё пражыць — не поле перайсці». Хто толькі яе прыдумаў?!. Пераходзяць рэчку, балота, дарогу. У полі ж ходзяць за плугам, сеюць, полюць. У чыстым полі, калі ўжо на тое пайшло, можна пабіцца на мячах са Змеем Горынычам. Навошта яго пераходзіць?

А нейкае паскуднае чарцянё на левым плячы, злосна пахіхікваючы, дастасоўвала фальклор да «канкрэтнага гістарычнага моманту»: «Жыццё пражыў, як поле перайшоў».

Брыдкае, бязлітаснае чарцянё...

# Цэтлікі з цыраты

## Старонкі кнігі «Жменька мукі»



Магдалена ЛАЕЎСКАЯ

*

Я пішу па-беларуску — а чаму не? Міцкевіч пісаў па-польску, дык чаму я не магу — па-беларуску?

Хачу, каб «Жменьку» прачыталі мае беларускія сябры, родныя і ўсе, хто адчувае гэтую мову як сваю. Напішу і па-польску — для маіх польскіх сяброў, знаёмых, родных, усіх, каму гэтая гісторыя будзе блізкай.

Я жыву ў Магілёве ўжо 18 гадоў, хоць нарадзілася ў Познані 44 гады таму. І часта чую пытанне: чаму ты з'ехала? І чаму засталася?

Гэта — мая спроба адказаць.

...Аднойчы ў «Gazeta Wyborcza» я заўважыла аб'яву: Педагагічны цэнтр у Варшаве шукае настаўнікаў для працы на Усходзе.

Я падала дакументы. І мяне прынялі. Праца — у Рызе. Было яшчэ некалькі месяцаў, каб падцягнуць мову.

Але сумневы не адпускалі. Цягнула і ў «Osada Burego Misia». І праца карэктарам у познаньскім выдавецтве.

Я была разгубленая. Цалкам. <...>

Мне быў патрэбны сэнс. А не літаратурная гульня.

У гэты час я пазнаёмілася з беларусам Дзянісам — ён пачаў вучыць мяне расейскай мове.

Я сама нічога не вырашала. Чакала, што лёс скажа слова за мяне.

І напрыканцы жніўня патэлефанавала спадарыня Бэата Петшык:

— Мы перадумалі. Вы едзеце не ў Рыгу, а ў Магілёў.

### Магілёў?

Я спачатку падумала, што гэта недзе на Украіне. Але сказала: добра.

Няхай будзе Магілёў. Пабуду год-два, вывучу расейскую мову — а далей будзе бачна.

Я з'ехала восенню 2006 года. І жыву ў Беларусі дагэтуль.

А цяпер — 2025-ы.

### Пра фразеалагізм *трапіць у Магілёўскую губерню*

Цікава: з усіх магчымых месцаў лёс прывёў мяне менавіта сюды — у Магілёў, ва ўсходнюю Беларусь.

Некаторыя гавораць, што ёсць дзве Беларусі: Заходняя і Усходняя. У Польшчы таксама: Польшча А і Польшча Б. У Нямеччыне некалі — ФРГ і ГДР.

Мая любімая Магілёўшчына — гэта, як кажуць святары, «місійная тэрыторыя», «зямля горшага Бога».

На курсах беларускай мовы я даведалася пра адзін дзіўны фразеалагізм: *трапіць у Магілёўскую губерню* — гэта значыць *памерці*.

Спачатку мяне гэта абурыла. Але потым я падумала: а чаму б і не?

Я сапраўды прыехала сюды, каб памерці. Памерці — і стаць іншай.

Нездарма ж *Магілёў* — гэта нібы *магіла льва*.

Вось жыве сабе ў Польшчы настаўніца Магда. Няўдалая. Збянтэжаная.

Прымушаная — памерці.

І на яе месцы паўстае *львіца*, якая прымірыць два народы.

Гучыць амбітна, ці не так?

Кажуць, гэтая этымалогія памылковая. І што назва горада пайшла ад імя полацкага князя Льва Уладзіміравіча, якога звалі *Леў Магутны*.

Іншыя кажуць, што слова *Магілёў* паходзіць ад фіна-вугорскага *магіляй* — «горы над вадой».

А Янка Купала напісаў п'есу «Магіла льва», дзе расказаў пра разбойніка Машэку, пахаванага на магілёўскіх пагорках.

І сапраўды — цікава: менавіта тут, у гэтай ідэальнай «губерні для смерці», я знайшла новае жыццё.

### Як вас завуць? Або як я стала Магдаленай Іванаўнай

— Магдалена.

Адно гэтае слова — і ўсё відавочна: *я не адсюль*.

У дзяцінстве я заўсёды была адной з многіх Магд у класе, у групе, у лагеры. А тут — адна на ўсю Магілёўскую вобласць!

У дзяржаўных установах мяне заўсёды пыталі:

— А імя па бацьку?

Шчыра кажучы, толькі тут я зразумела, што гэта такое. Я нарадзілася ў 1981 годзе. У час, калі польская школа ўжо паступова развітвалася з расейскай мовай.

Памятаю, як у трэцім класе ліцэя чытала «Злачынства і пакаранне» і дзівілася:

— Чаму Раскольнікаў то Радзён, то Раманавіч, то проста — Раскольнікаў?

У жыцці — тысячы камбінацый, якія спачатку даваліся цяжка. Мая памяць прывыкла да фарматаў *пані Эва, пані Бэата, пан Адам, пан Яцэк*. А тут — Алена Васільеўна, Наталля Уладзіміраўна, Іна Цімураўна, Клаўдзія Яфрэмаўна, Ніна Мікалаеўна, Алег Уладзіміравіч...

А я?

Мой бацька — Рышард. Значыць, я — Магдалена Рышардаўна. Гучыць, пагадзіцеся, нядрэнна.

Бываюць і зусім нечаканыя варыянты. Напрыклад, муж працуе з грузінам, якога завуць Марат Кірымавіч. А ў маім ПМЖ у графе «імя па бацьку» напісана... *Іоанна*. Гэта маё другое імя, якое знойдзена ў польскім пашпарце. Адсюль ініцыялы: М. І. Так і атрымліваецца: *Магдалена Іванаўна*.

Як аказалася, у гісторыі Беларусі ўжо была адна Магдалена Іванаўна. У Варшаве яе так называлі жартам. Яна жыла з 1861 па 1945 год. Беларуская нацыянальная дзяячка. Жонка Мікалая Радзівіла.

Яны займаліся абуджэннем беларускай самасвядомасці. Магдалена Радзівіл адкрывала школы для сялянскіх дзяцей, фінансавала беларускія часопісы.



Фота аўтаркі

*Вось такія справы!*

А я?

Магдаленай Іванаўнай мяне называлі толькі ў кабінетах, у бальніцах і ў чэргах. І часам — дома. Дзеля жарта.

А ў школе я заставалася пані Магдаленай.

### Магдалена Радзівіл

З Магдаленай Радзівіл нас аб'ядноўвае хіба што толькі імя. Але гэта была жанчына выключная: смелая, рашучая, дзіцё польска-літоўскай уніі.

Я даведалася пра яе з кнігі Віктара Хурсіка «Vale!», дзе сабраныя архіўныя матэрыялы і ўспаміны самой княгіні, напісаныя па-французску ў 1917 годзе. У Польшчы пра яе не чула ніколі.

Магдалена нарадзілася ў 1861 годзе ў Варшаве. Маці — полька Марыя Квілецкая, бацька — Ян Завіша-Кежгайла, які лічыў сябе ліцвінам і валодаў маёнткамі ў Мінскай губерні: у Жарнаўцы і Кухціцах.

Дзяцінства дзяўчынкі прайшло пад Варшавай, у маёнтку маці. Яна з сястрой выхоўваліся пад наглядам гувернантак з Францыі і Англіі, якія навучалі дзяўчат пагардзе да польскай мовы і культуры. Магдалена свабодна гаварыла па-французску і па-англійску, але адчувала сябе чужой у роднай сям'і.

Яна была вясёлай і жывой, яе пастаянна каралі — за згубленую стужку, за брудныя пальчаткі. У яе былі афіцыйныя, халодныя адносіны з маці. Затое бацька быў для яе ідэалам: элегантны, добры, гасцінны, цёплы. Асабліва ён любіў старэйшую дачку Эльжбету, паралізаваную дзяўчынку, якой маці амаль не цікавілася. Бацька ж карміў, даглядаў, вазіў яе на прагулкі.

У 21 год Магдалена выйшла замуж за Людвіка Красінскага — амаль пяцідзесяцігадовага польскага арыстакрата. У іх нарадзілася дачка Людвіка. Жыццё ў палацы Красінскіх ішло роўна і пабожна, пакуль у 1887 годзе не памёр яе бацька, Ян Завіша. Магдалена атрымала ў спадчыну Жарнаўку і Кухціцы, і ўсё часцей стала там бываць.

У 1895 годзе памёр і Людвік. Пахаваны ў Варшаве, ён замацаваў яе адчужэнне ад польскага асяроддзя.

У 1901 годзе Людвіка выйшла замуж за Адама Чартарыйскага. У 1904-м у Лондане Магдалена сустрэла Мікалая Радзівіла — сына скандальнай пісьменніцы Кацярыны Ржэўскай. Ён быў на 19 гадоў маладзейшы. У 1906 годзе яны пажаніліся і пераехалі ў Жарнаўку.

Менавіта там пачалося яе ўключэнне ў беларускі рух. З Мікалаем яны сябравалі з Эпімах-Шыпілам і падтрымлівалі беларускія выданні: «Нашу Долю», «Нашу Ніву», кнігарню Кухты ў Вільні.

Магдалена і Мікалай інвеставалі ў інфраструктуру маёнтка, злучылі яго чыгункай з Асіповічамі, арганізавалі лесанарыхтоўкі. Яна шчыра верыла, што шляхта мусіць перайсці на беларускую мову, што ВКЛ — сапраўдная радзіма, што касцёл павінен быць беларускім. У Варшаве з яе смяяліся: «З лютай полькі ператварылася ў лютую беларуску».

Журналіст Паўлікоўскі называў яе *Магдаленай Іванаўнай* — зняважліва. Яна ж ішла сваёй дарогай: курыла цыгарэты, паўсюль хадзіла з сабакамі, фінансавала школы.

У 1912 годзе Мікалай пайшоў ваяваць на Балканы, потым — у Германію, дзе загінуў у 1914 годзе. Яго пахавалі ў Кухціцах. Ксёндз Андрэй Зязюля правёў імшу на беларускай мове.

Магдалена працягнула ягоную справу. У 1918-м, пасля Брэсцкага міру, выехала ў Варшаву. Там яе не прынялі. У прэсе — кпіны, на вуліцы — напад. Траўмы прымусілі выехаць у Германію. У 1921 годзе перабралася ў Коўна, дзе атрымала літоўскае грамадзянства.

Яна старэла, хварэла, шукала дом, лічыла сябе недастойнай манастыра. Нарэшце знайшла прытулак у Фрайбургу (Швейцарыя), дзе памерла ў 1945 годзе.

У 2018 годзе яе прах вярнуўся на радзіму — у Мінск, у касцёл святога Роха.

Магдалена вярнулася дадому.

...Калі ўдзельнічаю ў беларускай Імшы, думаю: яна мела рацыю. Яна ведала, да чаго ідзе.

### Школа

Трэба вярнуцца да школы.

У магілёўскую школу я прыехала як пяты настаўнік з Польшчы. Пасля пераломнага 1989 года тут ужо працавалі пані Данута, пані Міраслава, пані Эва, пані Хэлена — і вось я, пані Магдалена. Для навакольных я была з'явай, якую цяжка было зразумець: кароткія валасы, акуляры, джынсы, світшот, заплечнік, без макіяжу. Сапраўдны кніжны чарвяк. Ніякіх упрыгожванняў, якія забіраюць час на чытанне і пісьмо. І гэта — *пані? Пані з багатай Польшчы?*

Пазней я зразумела, што ў школу тут варта апранацца лепш. Дзеці — у белых кашулях і элегантных спадніцах ці штанах. Калі ад іх гэтага патрабуюць, трэба і самой падаваць прыклад. Так, толькі Беларусь змагла хоць трохі адвучыць мяне ад знешняга нігілізму, замацаванага яшчэ гадавым жыццём у Нямеччыне.

У аўтобусе, школе, краме, банку — усюды было арганізавана, афіцыйна, карэктна і ветліва. Жанчыны — элегантна апранутыя, з макіяжам, у абцасах, з пазногцямі «з салона». А за горадам — старыя дамы, хусткі, акуляры з «тоўстым дном». Мне было бліжэй да тых другіх, але я трымалася: набыла зялёнае паліто і элегантныя штаны.

Я працавала з малодшымі класамі — 1—4. Два ўрокі на тыдзень, а ў першым класе — прадлёнка з 12:00 да 18:00. Праз гады бачу, што я проста гуляла з гэтымі дзецьмі. Я не ставіла сабе мэты «выхоўваць грамадзянаў». Я не крычала, не ставіла на «пары», не пагражала. Я проста суправаджала іх — сціплы польскі філолаг, які чытаў з захапленнем Мантэск'ё, Мантэсоры і Корчака.

Клас быў маленькі — усяго восем чалавек. Мы вучыліся разам — я па-расейску, яны па-польску. Мы былі на аднолькавым узроўні, і гэта быў педагагічны, лінгвістычны, чалавечы эксперымент. <...>

З часам я наладзіла кантакт з бацькамі, вучнямі, калегамі. Школа — мая родная стыхія. Я даравала многае: перапісаныя адзнакі, пошукі патэнцыйных вучняў па кватэрах...

Я правяла пяць шчаслівых гадоў. Потым прыйшоў бясконцы дэкрэтны адпачынак.

### Дзеці

Аліна нарадзілася ў 2008 годзе. Павел — у 2013-м. Аня — у 2016-м. Пётр — у 2020-м.

З кожным годам атмасфера ў радзільні змянялася. Але першы раз я вяла дзённік, і вось адна з тых запісаных старонак:

«10 кастрычніка 2010 года, 3:50. Я апынулася ў аддзяленні паталогіі цяжарнасці. Дактары хацелі неадкладна зрабіць кесарава сячэнне, але вырашылі пачакаць. Пачалося лячэнне: кропельніцы, уколы, аналізы... Я адчувала сябе добра і ўсё яшчэ верыла, што хутка вярнуся дадому — і на працу. Але штосьці спыняла мяне: іншыя жанчыны прыходзілі, нараджалі, сыходзілі, а я заставалася — ложак каля дзвярэй справа». <...>

З гадамі абстаноўка ў радзільнях змянілася: менш абмежаванняў, больш свабоды. Можна ўзяць адзенне з дому. Засталіся толькі цэтлікі з цыраты — імі я захапляюся. Я нават хацела назваць гэтую кнігу так: «Цэтлікі з цыраты».

Заканчэнне на стар. 4 »

# Цэтлікі з цыраты

## Старонкі кнігі «Жменька мукі»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3

### Сям'я

Рамана я сустрэла па дарозе да касцёла, і ад таго часу мы сталі хадзіць на Імшу разам. Кожны тыдзень праводзілі час у касцёле. Ён — рымскі католік не па традыцыі, а па выбары. Цікава, што менавіта ён пераканаў сваю маці далучыцца да Касцёла. Яны шмат гадоў маліліся аб добрай жонцы і нявестцы. Не ведаю, ці пачуў Бог гэтыя малітвы, але паслаў ім мяне — здалёк.

Я ўвайшла ў беларускую сям'ю з адкрытым сэрцам — і дагэтуль назіраю за ўсімі дробязямі, якія нас адрозніваюць.

Пачну з дэталяў.

Беларус абуваецца з дапамогай лыжкі. Прыйшоўшы дадому — адразу мые рукі. Потым пераапранаецца ў хатнюю вопратку, каб такім чынам пазбегнуць лішніх праблем. На сняданак звычайна есць кашу. У Рамана дома быў парадак: панядзелак — аўсянка, аўторак — манка, серада — грэчка... Абед зноў складаўся з кашы або бульбы, гароднiны ці мяса. А на вячэру — бліны, аладкі, або... зноў каша.

Праз некалькі месяцаў такой дыеты я з невыказнай радасцю вярнулася да сваіх бутэрбродаў, хоць і цяпер, штодня а шостай раніцы, рыхтую адпаведную кашу для астатніх членаў сям'і. Дарэчы, упакоўка аўсянкі мяне заўсёды здзіўляла — настолькі звычайная, што аж не верыцца. І сапраўды: вытворцы могуць быць спакойныя — у Беларусі кашы належаць да прадуктаў першай неабходнасці.

Я трапіла ў беларускую сям'ю з досведам, які мала каму быў патрэбны. Польскі філолаг, бібліятэкар, настаўніца, чытачка... Але не гаспадыня. Не магла я з радасцю кожную суботу хадзіць на ўчастак, капаць, саджаць гародніну на ўсю зіму. Хоць вырасла ў невялікім горадзе, да фізічнай працы не прызвычаілася. І з закаткамі справы ішлі кепска.

Навучыцца можна ўсяму — але не ўсё і не адразу. У мяне былі новыя мовы, новая школа, новая краіна, новы дом. Я не магла быць такой спакойнай, арганізаванай і гаспадарлівай, як прынята ў Беларусі. Я не хадзіла па хаце ў халаце, не мыла пакеты, не купала ката, не стрыгла яму кіпцюры, не стрыгла дачку на першы дзень народзінаў, не чапляла ёй шпількі «ад сурока»...

І ўсё ж не ўсё было марным. Я крыху навучылася не спяшацца. Перастала займацца пяццю справамі адначасова: чытаць чатыры кнігі, размаўляць па тэлефоне, пісаць лісты, есці, апранацца і планаваць будучыню — усё адразу. Цяпер стараюся засяродзіцца на адной рэчы: пісаць, есці, прыбіраць, слухаць чалавека.

Стараюся. А муж усё роўна крычыць:

— Што гэта за дом, дзе ніводнай адпрасаванай і накрухмаленай насоўкі?!

Ён мае на ўвазе тканевыя хусткі, пра якія я нават з дзяцінства ўжо нічога не памятаю...

### Беларуская мова

Мяне заўсёды захаплялі мовы: нямецкая, англійская, лацінская, расейская. Але я была пераканана: ніколі не змагу вывучыць замежную мову, бо не авалодаю ёю цалкам, як роднай. І ўсё ж, на ўласнае здзіўленне, я стала настаўніцай польскай мовы як замежнай.

Вучыць беларусаў было прыемна. З часам я дакладна ведала, што для іх лёгка, а што патрабуе асаблівай увагі. Пры вывучэнні польскай мовы яны часта вярталіся да каранёў — да беларускай. Словы, як цыбуля, бурак, шкарпэткі, кашуля, папера, акуляры, спадніца, сукенка, падручнік, — гучалі знаёма. І многія прызнаваліся, што пасля вывучэння польскай іх пачынала цягнуць да беларускай. Бо чаго саромецца? Палякі не саромеюцца сваіх «пшэкаў», шыпячых, носавых, гудлівых — і жывуць сабе спакойна.

Але мая роля была іншая: не развіваць любоў да роднай мовы, а вучыць замежнай. Развіваць слых, навык націску на перадапошні склад, веданне канчаткаў і правапісу. На сярэднім узроўні беларуская пачынала перашкаджаць: адбывалася моўная блытаніна. Людзі з філалагічным слыхам яшчэ спраўляліся з трыма мовамі — расейскай, польскай, беларускай. А іншыя — не. Хтосьці пачынаў гаварыць на сумесі, іншыя — проста пераключаліся на дзве мовы. Так прасцей.

У 2010 годзе я падарожнічала па Гродзеншчыне. Дзеці казалі, што адчувалі сябе за мяжой. Польскія шыльды, людзі свабодна пераходзяць з беларускай на расейскую ці польскую. Значыць — можна.

Праз месяц да нас у Магілёў прыехалі пілігрымы з Польшчы. Мая свякроў прывяла дадому двух польскіх гасцей. Спадарыня Геня спытала мяне:

— Як доўга вы тут жывяце? Вы ж мусіце ўжо ведаць беларускую мову?

— Чатыры гады... але яшчэ не вывучыла.

— Як гэта? Чатыры гады — і ні слова? Што — такая тупая?

Гэта быў удар. Але справядлівы. Праз некалькі дзён я спампавала падручнік і пачала вучыцца. Бо, спадарыня Геня, я не тупая.

Я зразумела: беларусы схавалі сваю мову. Яна — інтымная. Расейскую перадалі мне з лёгкасцю, а вось беларускую — не. Яна іх унутраная, асабістая, самая любімая. Гэта — код, які нябачна іх злучае.

Упершыню я пачула беларускую мову ў кастрычніку 2006-га — у касцёле св. Станіслава. Імша, моладзь спявае, анёльскія галасы. Я вярталася туды кожны раз, калі магла.

І яны, тыя маладыя людзі, верагодна, не ведаюць, наколькі паўплывалі на маё жыццё.

Беларуская мова — гэта не толькі мова малітвы ці літаратуры. Гэта мова побыту, сутнасці, жыцця.

Словы для мяне — як костачкі ад пладоў, з якіх нешта вырастае. Я дакранаюся да іх, разглядаю, назіраю.

Мае ўлюбёныя беларускія словы: пільніца, вітальня, дзеяслоў, спажыўца, дужка, шыпшына, здань, кавун, жменька, цэтлік...

Памятаю, як рабіла хатняе заданне з дачкой: «*Спішыце, раскрываючы дужкі*». Я зразу падумала — «*раскрыць душу*». Хоць разумела: не тое значэнне. Але не магла не пагуляцца з асацыяцыяй.

Я доўга думала, што робіць беларускую мову асаблівай. Магчыма — прыслоўі. У іх — рытм і тон краіны. Вось прыклады:

*w tym roku* — **сёлета**
*w zeszłym roku* — **летась**
*pić z całego wiadra* — **нагбом**
*w ślad* — **наўздогон**

І гэта толькі вяршыня айсберга. Мяне яшчэ чакае процьма прыслоўяў, якія ўпотайкі хаваюцца ў слоўніках, і хоцькі-няхоцькі трэба будзе іх нагінкам даставаць...

### Беларуская літаратура

Беларуская літаратура — феноменальная. Напісаная на розных мовах. Напоўненая крывёй, гісторыямі, трагічнымі і іранічнымі лёсамі. Яна сапраўдная, адзіная ў сваім родзе. Яна кажа пра Беларусь лепш, чым любая аналітыка ці даклады.

Калі хочаш пазнаць суседзяў — чытай іх кнігі.

Палякі для беларусаў — знаёмыя. Па-беларуску выходзілі Лем, Гэрбэрт, Шымборска, Сапкоўскі, Такарчук, Віткацы, Гамбровіч... Цэлы свет. Беларускія чытачы ведаюць нас. А мы?

Прыйшоў час гэта змяніць.

Для мяне беларуская літаратура — гэта глыток свежага паветра, спосаб спасціжэння свету і экспартны тавар, які не паддаецца санкцыям.

Гэта голас у шалёнай рэчаіснасці, прастора надзеі і намёк на вечнасць.

### Саламея Рэгіна Пільштынова

Пра Пільштынову я ўпершыню даведалася, калі прачытала кнігу Ганны Севярынец «Дзень святога Патрыка». І не паверыла сваім вачам: XVIII стагоддзе, польская мова, жаночыя мемуары — мая любімая эпоха, а я ніколі пра яе не чула! Пра Яна Пасэка, калі ласка, я магу нешта сказаць, яго дзённікі мне знаёмыя. А вось Пільштынова? Хто яна?

Жанчына-лекар. Прадпрымальніца. Асоба, якая завявала салоны Турцыі і Расіі. Нарадзілася пад Наваградкам у 1718 годзе, у чатырнаццаць гадоў выйшла замуж за лекара, нарадзіла траіх дзяцей, перажыла безліч палітычных авантур і скандалаў. Выдавала свае кнігі за ўласны кошт. Проста бомба!

Як яна магла ўсё гэта зрабіць у сацыяльных умовах XVIII стагоддзя? Ці сапраўды яна існавала?

Я цягнуся да барочнай *Біблії* Чэслава Гернаса, і што знаходжу? Раздзел пра дзённікі... і ні слова пра Пільштынову. Гернас згадаў толькі Ганну Станіслаўскую, бо яна пісала ў вершах і карысталася «лепшай» польскай літаратурнай мовай. А Пільштынова — не. Яе мова насычаная рэгіяналізмамі і фанетычнымі рысамі Вялікага Княства Літоўскага.

Спачатку я чытала яе «Успаміны» па-беларуску, пасля — у польскім арыгінале. Шукала там беларускія словы. Валошкі, а не *chabry*. *Іншы*, а не *inny*. Я *ведаю*, а не *znam*. Яны ўсё яшчэ жывуць — у сучаснай Беларусі: *шуфляда*, а не *выдвижной ящик*, *будка*, а не *конура*, *закасаць рукавы*, а не *засучить рукава*.

Мне ўсё больш хацелася даведацца пра яе: ці існуе партрэт? Дзе і як яна загінула? Ці паказаная недзе? Чаму пра яе не здымаюць фільм? «Прыгоды майго жыцця» — гатовы сцэнарый!

Упэўнена, беларусы справіліся б з такой экранізацыяй. Уяўляю сцэну: спадарыня Рэгіна трымае ў руках дзённік і чытае хвораму. Разам яны думкамі вандруюць у Стамбул, Нясвіж, Пецярбург, Вену...

Вядома, успамінам Пільштыновай нельга верыць да канца — там многа мастацкага, прыдуманага. Даследчыкі сцвярджаюць, што яна імкнулася апраўдаць сябе — і за тое, што пакінула дзяцей, і за падазрэнні ў гандлі людзьмі. Але ўсё ж...

Парадокс: Турцыя дала ёй тое, чаго не дала Рэч Паспалітая — статус, прафесію, свабоду. Як жанчына-лекар, яна была патрэбнай і адзіна магчымай у гарэмах, дзе лекарам мужчынам уваход быў забаронены. Усход стаў для яе акном у свет, магчымасцю стаць лепшай версіяй сябе.

Пільштынова была практычная. Жыла ў канкрэтным часе, у канкрэтным месцы і прымала рашэнні. Вывучыла нямецкую, турэцкую, арабскую і лацінскую. Так патрабавала жыццё. Мужчыны і дзеці — пастаянная крыніца расчаравання. Як доктар — рашучая і эфектыўная. Як маці і жонка — падманутая, безабаронная.

Можа, моцным жанчынам трэба дзесьці праявіць слабасць, каб захаваць баланс? Не ведаю. Але ў духоўным сэнсе яе тэкст — глыбокі. Яна верыла, што галоўны лекар — гэта Бог. Што прычына хваробы — часта ў смутку, у душэўнай пакуце. І калі не дапамагаюць лекі ці аперацыі — дапамагае малітва, абразы, святая вада. А калі і гэта не дзейнічае — звяртаюцца да народнай медыцыны.

На думку Пільштыновай, адзінае пастаянства на зямлі — гэта Святая Тройца. Бог Айцец. Бог Сын. Святы Дух.

### У руках КДБ

Я ніколі не адчувала, што за мной сочаць. Так, я сустракала падазроных людзей — гэта відаць здалёк. Калі нехта занадта ветлівы або паводзіць сябе нехарактэрна, я адразу раблюся насцярожанай.

Але ёсць адна гісторыя, калі я сапраўды была ў руках КДБ.

Час ад часу я падпрацоўвала вуснымі і пісьмовымі перакладамі. Для мяне гэта быў адпачынак ад штодзённасці і магчымасць вывучыць новую тэму: лекі, бухгалтэрыя, сельская гаспадарка... Усё цікава!

Кожная сфера мае сваю мову, свой код. Таму, рыхтуючыся да перакладу на дзелавой сустрэчы ва Усходняй Беларусі (справа ішла ў 2018 годзе), я папрасіла ў заказчыка спіс пытанняў.

— Агульныя размовы. Не хвалюйцеся. Усё будзе добра. Мы падрыхтаваныя, — адказалі мне.

Беларускі бок быў вельмі зацікаўлены ў супрацоўніцтве. Накрылі стол: сала, гарэлка, усё сваё — натуральнае, каларыйнае. Польскі бок задаваў пытанні пра глебу, угнаенні, надвор'е, тэхніку, транспарт. Якраз тая «спецыфіка», якую я хацела загадзя вывучыць.

За сталом сядзелі мясцовы мэр, яго намеснік, бізнэсовец, таямнічы партнёр, трое палякаў і я. Тосты. Размовы. Танцы. Весялосць. Давялося выпіць. Пасля шостай чаркі той самы таямнічы партнёр не адыходзіў ад мяне ні на крок.

Мы вярталіся ў адной машыне. Я ўжо пачынала палохацца: мяжа з Расіяй недалёка, я сяджу з п'яным беларусам, якога не ведаю.

— Магда, ты ніколі не была ў большай бяспецы, — усміхнуўся ён і працягнуў мне пасведчанне. КДБ

Я сапраўды магла здагадацца, што нехта на сустрэчы будзе адтуль. Ён пачаў паказваць фота жонкі, дачкі, свайго дома. Ён жыве добра. Ён лічыць сябе патрыётам, стаіць на варце інтарэсаў краіны. Таму ён і быў на перамовах — пераканацца, што інвестыцыі датычаць выключна кукурузы.

Больш я яго ніколі не бачыла.

### 2020

2020 год змяніў кожнага жыхара Беларусі.

У жніўні я была на дзявятым месяцы цяжарнасці. На наступны дзень пасля выбараў я напісала свой першы верш па-беларуску — і тут жа яго спаліла. <...>

Пётр нарадзіўся праз месяц. Гэта былі самыя цяжкія і доўгія роды. Я баялася, што дзіця народзіцца хворым — так казалі лекары, зважаючы на мой узрост (амаль 40) і аналізы.

Пасля родаў не ўдавалася спыніць крывацёк. Я літаральна купалася ў крыві. Памятаю гурт лекараў над галавой і паўсюль — пах жалеза. Знутры і звонку.

Потым я прачнулася ў белым накрухмаленым ложку і не ведала: радавацца ці плакаць. Я дзякавала Богу, што Пётр здаровы, і малілася за Беларусь. Параненую. Залітую слязьмі і крывёю.

Праз некалькі дзён я вярнулася дадому. Пачалося наша жыццё ўшасцёх. Штодзённасць: школа, садок, абеды, прагулкі, касцёл, размовы.

Шмат людзей з'ехала. І гэта адчуваю кожны горад, кожная парафія, кожная сям'я. Пустэчу немагчыма запоўніць. Мне балюча кожны раз, калі нехта зноў з'язджае — таму што трэба, таму што няма будучыні, таму што дзеці...

*Вялікая Бароўка, 2025 г.*

# У чыстым верасні



Валеры ДУБОЎСКІ

***

*З кожным уздыхам,
крокам, паглядам,
страчаным нервам
урастаю ў сябе.
У дол, па якім крочу,
У воблака, у ластаўку —
вестаўку воблака.
У дзядоўнік.
У сям'ю.
У прахожых.
У гукі-званы
ўначэлай менскай ратушы,
у яе спрадвечныя
быццам замовы,
у старасвецкія сцені ўспамінаў.
Урастаю ў камяні.
У карані і кроны.
У лісце.
У крокі.
У стаянне і плынь вады.
У ветрань і бязветрань.
У маўчанне задумнага маладзіка.
У салодкія вусны твае
пасля сметанковага марозіва…
Урастаю, каб некалі
быць вырваным і пакладзеным.
Для новага ўзрастання.*

***

*Мінаю агарожы
То хітра, то сумленна.
З сябе ізноў выходжу —
У часе згінуць тленам.*

*Дзень з ноччу парадню,
Хоць час над тым рагоча.
А ноч дарце дню,
Як дзень дарце ночы.*

***

*З тых часоў,
З тых людзей,
З тых аблокаў,
З тых найменняў,
Што з намі рыфмуюцца,
Дух няўрымслівы
Вымусіў клёку
І слядоў
На замроеных вуліцах.
І чаканняў,
Нязнаных зняверцам,
І памкненняў —
Праз копшу і крушні,
І нязмушаных
Высілкаў сэрца,
І вызнанняў,
Нікім не парушаных.*

***

*А памятаеш?
У вар'яцтве жніўня,
Уначы, на пах і слых,
Адшукаў цябе,
Такі наіўны,
І заблукаў
У руках тваіх.
А памятаеш?
У чыстым верасні,
Як туман над Свіслаччу
Зусім ачах,
З табою побач
Я цябе прысніў
І патануў
У тваіх вачах.
А памятаеш?
У апошнім траўні
Мы гулялі —
Два аблокі.
Табе, як небу,
Ва ўсім патураў я.
І дзень быў нябёсны
І такі высокі.
А памятаеш?
Світанак віталі
Над Малкай,
Плешчаніцкай рачулкай.
Сэрцы нашыя
Біліся гулка…
А памятаеш,
Што будзе далей?*

***

*Кветкай травеньскай —
Бэзам,бэзам
Да вакна твайго
Прытуляюся.
Я, спазнаўшы цябе,
Знаю ўсё.
Узнікаю.
Жыву.
Чэзну.
Ашаломлены сонцаваротам,
Закалыханы
Млявым месяцам.
За вакном мне б з табою
Месціцца
У духмянасці траўня
Употай.
І знайшоўшыся б,
Перахавацца.
Зноў згубіцца
І зноў знайсціся.
Духам быць
Уначэлай высі,
Тваёй любасці
Лепшым знаўцам.*

***

*Купацца дзіцем
У дняпроўскім бродзе
Вярнуся,
Скуру скіну, як адзежыну.
І збыцца незбылому
Ды належнаму,
Ўсяму, што лёс зямны
Накарагодзіў.
Раку, нібы сябе,
Пераплываю.
І бераг даўнасці
Ва ўчора не пакінуты.
Цяпер з жыццём
Я не на «вы» — на «ты».
Аднекуль некуды ды выведзе крывая.
Наноў вышэптваюць
Быльнёгу чараты
Сваю спрадвечнасць
Днямі і начамі…
Я набліжаюся
Да белага маўчання
І аддаляюся
Ад чорнай нематы.*

**Веснавое**

*Прасцягі перайшлі ўсе
Далёкія.
Да ісціны сваёй
Прыспешвалі.
Мы лёсу аднаго
З аблокамі
І з камянямі нашымі
Тутэйшымі.
Усё адно —
Тут хто каго паклікаў.
Тут даўніны
Ніхто не перайнача
Ад першага
Няўтрыманага крыку,
Ад першага
Знароўленага плачу.
Дабрэлі перуны
Па-над лясамі.
Ад нашых галасоў
Мацнела рэха.
І беларускі шэпт
Ціхоткі самы
Быў чутны ўсім.
Быў Богу на ўцеху.*

***

*Спрычыніся маёй нематы!
Спрычыніся і кроку, і крыку.
Адзінота, нібыта латынь.
Да яе мне ніяк не прывыкнуць.
Да хістання зацятых ветроў,
Да прыязнай маўклівай хітрэчы…
Ад вачэй адхрысціцца гатоў,
Ад якіх захвараў невылечна.*

***

*Прайсці сябе
І прэч сыйсці…
І не свяціцца больш
Бярозе пры дарозе?
Без мяне.
На ганку
Прычаканай вечнасці.*

***

*Урэшце
мне сэнс вядомы
і слоў,
і далёкіх дымоў.
Думаў — дарога з дому.
Напраўдзе — дарога дамоў.*

***

*Абсяг у высі
Зеўраў.
Купалле
Дух ахвоціла
У дні
Найменшай цемры,
Ды ў начной
Цямноце.
З гары каталі
Кола,
Вянкі жыцця
Спляталі,
Купацца беглі
Голыя
І славілі
Купалле.
Каб сёння,
Не збылое
Яснела небадолам,
Мы разамкнулі
Кола —
І стаўся час Стралою.*

***

*Слухаю ноты —
дыханне пякельнае мроі,
рук
матыльковы узмах,
позірк нясцерпных вачэй…
Слухаю сэрца —
абмежаванае мною
у бязмежжы і руху
прасторы…
Слухаю неба —
зямных парадзіху пачуццяў
і Боскіх
таемных вестак…
Слухаю памяць.
Думы,
роўныя часу,
злучаваюць сёння
і няўяўнае заўтра…*

*Слухаю быццам цябе.
А чую
і ноты,
і сэрца,
і неба,
і памяць…
Выратаванне маё.*

***

*звініць струна
звініць струна
звініць струна
як верш
мая віна
мая віна
мая віна
найперш
надзея сноў
надзея сноў
надзея сноў-замоў
як дзеяслоў
як дзеяслоў
як дзеяслоў
ізноў
злучае нас
злучае нас
злучае ўначы
у гэты час
у гэты час
у гэты час маўчы
калі мяне
калі мяне
калі мяне
мінеш
усё міне
усё міне
не знікне
толькі верш.*



Фота pxhere.com

# Два апавяданні


Стася НАРКЕВІЧ

## Брат

«Брат, добры дзень, а мо вечар. Я ж не ведаю, калі ты адчыніш паштовую скрынку і дастанеш сіні канверт. Зірнеш і здзівішся: бо цяпер ужо, бадай, ніхто не піша лісты. Цяпер у пашане эсэмэскі, электронная пошта ці скайп. Блакітнымі вачыма прабяжыш па маёй пісаніне і ў нейкі момант нават спытаеш сябе: "Божухна, якая муха ўкусіла сястру, што яна ўзяла асадку і на паперы пачала ажыўляць застылыя думкі, якія так надзейна схавала ў галаве і толькі час ад часу выкідвае ў суправаджэнні спрадвечных пытанняў: хто ты? адкуль ты? якія твае карані?"

Дык вось, адкажу адразу. Падштурхуў мяне да такога цікавага занятку мой пацыент, даволі пажылы мужчына, які прынёс з сабою пажоўклы ад часу ліст сваёй сястры, якой, на жаль, ужо няма на гэтым свеце, і амаль прымусіў прачытаць яго. Аркуш паперы быў спарахнелы. Я баялася, што ў маіх руках ён рассыплецца на невялічкія кавалачкі, а скразняк падхопіць іх і раскідае па кабінеце. На шчасце, гэтага не здарылася: навіны, якімі быў нашпігаваны кожны абзац, мацней за магніт трымаліся на тлустых лінейках, быццам бы хацелі, каб я, доктар, які лечыць душы людзей, давedалася пра яго сям'ю, родных яму людзей, іх жахлівыя адносіны паміж сабою, што, як мне падалося, сталі прычынай глыбокай дэпрэсіі чалавека.

Я чытала ліст даволі марудна, асэнсоўваючы кожнае слова, і раптам злавіла сябе на думцы, што гэты аркуш мне не пацыент даў, а я сама вырвала з яго рук і тым самым вераломна ўварвалася ў чужое жыццё, поўнае драматызму, што ледзь не расплакалася ад сораму. Я нават некалькі разоў парывалася вярнуць пасланне адрасату, але ж мусіла дачытаць усё да канца, каб знайсці тую адзіную шпульку, на якую пачалі накручвацца, падобна да нітак, крыўды, зайздрасць, кпіны, ды разабрацца ў іх і хоць трошкі дапамагчы чалавеку жыць далей, не азіраючыся назад. Я асіліла апошні сказ з такім пачуццём, што быццам паднялася на крутую гару з каменем на спіне, які адцягваў і адцягваў назад...

Ліст лістом, але ж мне трэба было яшчэ і выслухаць наведвальніка, пачуць яго праўду, прааналізаваць, а ўжо потым прызначыць хвораму лекі, як і прапанаваць наведваць нашыя аўтатрэнінгі. І стары пачаў свой аповед. За першыя хвіліны размовы мужчына выціснуў з сябе толькі некалькі слоў. Потым маланкава зірнуў на мяне — і яго "панесла". Ён расказаў усё, бадай, ад самой калыскі. Успамінаў далёкае дзяцінства і сваю сястру, якая і напісала яму гэтае пісьмо. Спярша ён гаварыў так, быццам чытаў малітву: ціха і працяжна. Па яго шчоках каціліся вялікія слёзы, якіх ён не саромеўся. Чалавек расказваў пра вясковае жыццё сваёй сям'і, амаль, што галоднае і голае. А калі пачынаў гаварыць пра самыя крыўдныя моманты з дзяцінства, то ціхая і спакойная малітва перарастала ў дзікі крык, падобны да рова загнанага ў пастку звера. Бывала, што тыя словы, якія вымаўляў, быццам камяні, валіліся і на мяне. Спытаеш, чаму? Не паверыш — іх дзяцінства было так падобным да нашага з табою.

Ведаеш, за што ён не любіў сваю сястру? За тое, што яна была трошкі хітрэйшай і шустрэйшай за яго. Яшчэ тады гэта прыгнятала яго, а цяпер, асабліва ў апошні час, пры ўспамінах ён ад злосці аж задыхаўся. Не мог па жыцці ісці лёгка ды без турбот.

Я разабралася ва ўсім. Я дапамагу яму скінуць цяжар мінулага часу, хоць давядзецца папрацаваць шмат і сур'ёзна. Скірую яго думкі да таго, што жыць трэба сённяшнім днём. Радавацца кожнаму ўсходу сонейка, співу салоўкі і дзякаваць Богу, што ты прачнуўся. Па магчымасці сустракацца з роднымі людзьмі, а не капацца на руінах гадоў, адшукваючы брудныя хусцінкі, а потым імі трэсці ці махаць перад тварам чалавека, які калісьці цябе ненарокам пакрыўдзіў ці ў чымсьці абышоў.

Чаму ён да сённяшняга часу ёй не прабачыў, не ведаю. Відаць, не змог пераасэнсаваць пражытае, таму і патануў у балотнай ціне праблем, і чым далей жыў, тым больш гэтыя праблемы цягнулі яго на дно.

Калі мой пацыент зачыніў дзверы, я яшчэ зрабіла некалькі запісаў у яго картцы і пачала збірацца дадому. Прыём хворых закончыўся. Прыбіраючы лішнія паперы са стала, я натыкнулася на часопіс, які прынесла ў кабінет, каб дачытаць артыкул, — пра тое, як адна смяротна хворая кабета паставіла сябе на ногі, і чамусьці ўспомніла цябе. Якая сувязь паміж ёй і табой, не ведаю. Хаця, чаму не ведаю... твая хвароба, якую ты ад мяне схаваў.

Вось толькі не магу ўцяміць, чаму ты не адкрыўся, не расказаў? Не хацеў, каб я павучала ды давала парады. Ну што ж, як кажуць, твая воля. Я даўно ўжо нічога не ведаю пра тваё жыццё, па якім ты бяжыш галопам. Што цябе рухае, каго ты хочаш дагнаць ці абысці? Калі тэлефаную, цябе няма дома. А сотавы заўсёды не даступны. А ўсё гэтыя чуткі, чуткі... Нядаўна пачула, што ты ўсё прадаеш і ў хуткім часе выедзеш з краіны. Няўжо гэта так? Навошта ты сабраўся за мяжу? Ты тут зорка футбола, выдатны трэнер. Хіба ў цябе няма ўмоў для працы ці ад цябе збеглі дзеці? Хто цябе ведае там, за бугром? Пяць аматараў футбола? Да невядомага трэнера ніхто не прывядзе сваё дзіцятка. Гэта наконт работы.

А ўсё ж адкажы, якая ў цябе хвароба? З лёгкімі штосьці? А цяпер раскінь мазгамі. Каму ты патрэбен на чужбіне хворым? А раптам табе стане зусім дрэнна, хто дапаможа? Нават не будзе каму падаць кубак вады. На што ты спадзяешся? На сяброў, былую жонку і сына? Ты ім здаровы не быў патрэбен, не гаворачы пра сённяшняе тваё становішча. Канешне, у тым, што ў цябе няма сваёй сям'і, сам вінаваты. Думаю, у гэтым ты даўно разабраўся і зарубіў сабе на носе, што для кожнага чалавека галоўнае — гэта яго сям'я, а не сябрукі ды п'янкі. Ды што цяпер пра гэта гаварыць, што пераліваць з пустога ў парожняе. У тваім узросце, а табе, дзякуй богу, пад шэсцьдзясят бярэцца, трэба бліжэй да родных пад'язджаць. Кінь ты тое замежжа! Лепш да мяне падайся. У нас цудоўны дом, які стаіць амаль на беразе возера. А колькі ў ім рыбы! Такое багацце ты нават у сне не бачыў. Чыстае паветра. А якімі колерамі пераліваюцца раніцою росы, калі першыя прамяні сонца пачынаюць іх песціць. А крынічка... Такой вады няма нідзе, хоць зямлю ўсю абыдзі. Каб не сумаваў, на работу ўладкую. Масажыстам. Твае рукі здолеюць падняць на ногі самага разбітага чалавека. Без працы нельга. Праца — мудрэйшая за лекі самыя дарагія. Ці ты думаеш, пакінуўшы Радзіму, збяжыш ад сябе і сваіх праблем? Дарэмна. Праблемы трэба рашаць па меры іх узнікнення, а не запіхваць у скрыню. Само сабой нічога не вырашыцца. Табе больш патрэбны станоўчыя эмоцыі. Ведаеш, як табою ганарацца ўсе сваякі? А кожны хлопчык марыць столькі забіць галоў, колькі забіў ты. Тваё прозвішча пішуць на футболках. Павер, такое чалавека ўзвышае.

Я ведаю, з табою будзе не вельмі лёгка. Ты ўпарты, а часам і раздражнёны, злы. Можаш пакрыўдзіць, а потым не знаходзіць сабе месца, як і не можаш адразу прызнаць сваю віну. Бываюць моманты, калі ты сябе лічыш за ўсіх разумнейшым. Але гэта ўсё можна дараваць, бо ты ж мой брат. Прыедзь, раскажы, хто ў тваё сэрца так глыбока загнаў кол, які не дае табе дыхаць на поўныя грудзі? Новая твая пасія? Спадзяюся, пра ўсё мне раскажаш пры сустрэчы. Дарэчы, пра сустрэчу... Памятаеш нашу з табой сустрэчу? Выпадковую. У Санкт-Пецярбургу. Ты тады вучыўся ў фізкультурным інстытуце, а я прыехала на экскурсію і два дні не магла цябе знайсці, каб перадаць адзенне і грошы, якія мы з бацькам злажылі ў складчыну: ён тыя мізэрныя рублі адлушчыў ад сваёй пенсіі, а я сэканоміла на абедах. Дык вось, я трымала ў сумачцы грошы і чакала цябе. На вахце. Доўга стаяла, але дарэмна. Панурая адышла ад будынку і пайшла да групы, таке ж пакінула запіску, дзе мяне можна знайсці вечарам. Ды толькі ты не знайшоў мяне, відаць, загуляўся. У мяне нават прапала надзея, што мы пабачымся, хаця кожны дзень я шукала тваё аблічча ў натоўпе, прыглядалася да кожнага юнака. І раптам заўважыла цябе... Божа, колькі было радасці ў маіх вачах! Я падбегла да самага прыгожага хлопца, майго брата, і тузанула за рукаў. Ад нечаканасці ты схамянуўся і, як мне падалося, нават спужаўся, відаць, падумаў, што нейкая ненармальная дзяўчына з сівым парыку чапляецца... Потым мы з табою гулялі на праспектах, а вечарам развіталіся. Наш турыстычны цягнік адышоў ад перона, а ты застаўся, акутаны цёмным вэлюмам ночы. Стаяў такі сумны! Вецер гайдаў тваю гнуткую постаць, і мне было цябе так шкада, што я заплакала.

Я часта плакала, калі ты быў малым, шкадавала. Асабліва пасля тваёй няўдалай гульні з патронамі, якія ты з хлопчыкамі кідаў у касцёр, і тады, калі настаўніца ставіла цябе ў куток на калені, цягала за вушы — за тое, што ты падказваў сябру, як правільна рашыць задачку. Ты стаяў у кутку і ўсхліпваў. Твае тонкія пальчыкі былі ў кулачках, і ты іх больш і больш сціскаў... Маё сэрца разрывалася, гледзячы на цябе, мае слёзы-градзіны каціліся на парту і разбіваліся на маленькія друзгачкі, якія пакідалі мокрыя салёныя плямкі...

У той час мы з табою жылі дружна. Калі з пачатковай школы, дзе два класы вучыліся разам, я перайшла ў васьмігодку, мы з табою дзялілі пяцьдзясят капеек напалам, каб купіць трошачкі прысмакаў. А вось ровар дастаўся мне. У той час, як ты адмяраў пяць кіламетраў сваімі ножкамі, я ж пераадольвала шлях у дванаццаць кіламетраў, круцячы педалі, не спыняючыся. А набыць другую веламашыну бацькі не маглі. Бяднота была і галата...

Ведаю, што крыўда на мяне з-за ровара жыве ў тваёй памяці і сёння. Я куплю табе жалезнага сябра, і ён будзе больш карысным, чым твой «джып», калі ты пераедзеш да мяне. Ровар дасць табе радасці больш, чым твой аўтамабіль. Кіламетр шляху ад нашага дома да пансіяната, дзе ты будзеш працаваць, я ўсё ж спадзяюся, прынясе табе столькі бадзёрасці і натхнення, што ты зноў на свет зірнеш іншымі вачыма.

Выкінь з душы тое, што перашкаджае жыць. Збярыся з духам. Жыццё ж такое кароткае. Атрымай асалоду ад усяго, што цябе акружае. Зачыні сэрца для суму. Не ўспамінай таго і не шкадуй тое, што нельга вярнуць ці паправіць. Жыві цяпер.

Я доўга яшчэ магу пісаць-гаварыць, але ж больш хачу табе сказаць, гледзячы ў вочы. Прыязджай. Я цябе вельмі чакаю. Няхай у тваёй душы будзе вера, будзе Бог. Усяго табе найлепшага. Да сустрэчы, брат!

Твая старэйшая сястра».

## Дарожны трыпціх

Дзень абяцаў быць гарачым — ні хмурынкі на небе. І промні сонца ўжо зранку так смалілі, што ад іх нельга было схавацца ні пад разгалістымі шатамі клёнаў, ні ў памяшканнях. Асабліва стала невыносна горача апоўдні.

«Як жа дабрацца да вакзала, няма чым дыхаць?» — падумала, калі апынулася на прыпынку. Зірнула на гадзіннік, на расклад руху транспарту і вырашыла ісці — час дазваляў. Але не гэта стала галоўнай прычынай майго вымушанага падарожжа, а ўчарашнія ўспаміны пра паездку дадому з працы ў бітком набітым аўтобусе, дзе нельга было нармальна паставіць ногі, як і падняць рукі, каб ухапіцца за поручні і трымацца. Хаця ведала, што ісці ў такую спякоту — не цукар есці: духата сцісне грудзі, а едкі дым, які выціскалі з асфальта машыны, заб'е лёгкі, і на мяне, як, дарэчы, на іншых гараджан, нападзе кашаль — сухі і пацяглы.

«У такое надвор'е трэба на беразе рэчкі сядзець ці якога-небудзь вадаёма», — падумала і спынілася насупраць фантана, заглядзелася. Карціна была сапраўды нязвыклая. Некалькі хлопцаў і дзяўчат падставілі гнуткія постаці пад струмені вады і прымалі «душ». Ім хапіла некалькі хвілін, каб вымакнуць да ніткі, а потым з крыкам і смехам выскачыць да сваіх сяброў, якія стаялі збоку, і неўпрыкмет прыхінуцца да іх сухога адзення.

— Ну, знайшлі забаву, і дзе? Лепш бы за горад падаліся. Які прыклад падаюць малым, — як старая бабулька, буркнула я. Але раптам схамянулася і адзначыла, што, напэўна, каб і мне было столькі гадкоў, колькі ім, я таксама палезла б у гэты штучны вадаём ды чакала, калі крапелькі вады распусцяць свае нябачныя веееры і імі адгародзяць ад пякучых промняў шчокі, рукі, галаву.

«Сёння трэба было патэлефанаваць сяброўцы і на яе жоўтай "бубачцы" (так яна называе сваё «Пежо») паехаць у які-небудзь забыты богам куток ці да возера і цалюткі дзень лашчыцца ў вадзе», — мільганула ў галаве. Але гэтага я не магла зрабіць: мяне чакала хворая сястра, якой я везла дэфіцытныя лекі, ды і, у рэшце рэшт, у мяне б не хапіла здароўя зноў стаяць у чарзе па квіток.

Колькі хвілін я яшчэ пастаяла, перамінаючыся з нагі на нагу, і хоць дужа не хацела пакідаць назіральны пункт, але мусіла сябе зварухнуць з месца і пакрочыць да будынка вакзала.

Мне хапіла дзесяць хвілін, каб дайсці да залы чакання, і столькі ж часу, каб трапіць пад раз'юшаны паток пасажыраў, што, быццам абвараны кіпенем, уцякалі з памяшкання, у якім не было чым дыхаць: спёртае паветра, перамешанае з гарачынёй, парфумам, пахам ежы, выганяла ў горад.

«Ужо лепш пастаяць на пероне», — падумала і ціхенька, каб не наступіць на падол спадніцкі, якую звычайна апранала ў дарогу, спусцілася ў тунэль. Там хоць было трошкі халадней, але больш небяспечна для здароўя: скразнякі, быццам бы вострыя коп'і, пратыкалі цела.

«І калі ўжо аб'явяць пасадку? — мільганула ў галаве. — Уладкуюся на сваім бакавым сядзенні і праз чатыры гадзіны буду на месцы».

Божа! Нарэшце на табло з'явіўся нумар цягніка і платформы, ля якой ён спыніцца, каб забраць мяне і такіх жа гаротных, як я, што наважыліся ў такі небяспечна душны дзень пакінуць кватэры і ехаць па справах.

Падымаюся па прыступках уверх. Людзей не так багата. Пасажыры з'явяцца на пероне перад самым адыходам хуткага. Як заўсёды.

А вось і цягнік. Без цяжкасцяў знаходжу свой вагон. Прыгожая правадніца ветліва запрашае зайсці ў яго. Працягваю квіток — і праз некалькі хвілін на месцы. Думаю, хто ж будзе маім суседам ці суседкай. А іх прыйшло двое. «Няўжо ж пасажыры — спарышы?», — мільгае думка. Не. Муж і жонка. Размаўляюць на ўкраінскай мове. Жанчына сядае ля мяне, муж у наступным купэ шукае месца. Заходзіць яшчэ адна пара, відаць, маладажоны. Ім больш пашанцавала за нас. Дзяўчына і хлопец змогуць прыняць гарызантальнае становішча і з камфортам даехаць да сваёй станцыі. Ці за такія ж грошы — амаль што з пакутамі. Ні паклажу схаваць ад людскога вока, ні самой зашыцца.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Два апавяданні

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6




Пакуль разважала, не прыкмеціла, як у наша купэ зайшлі яшчэ два пасажыры: матуля з сынам, якому на выгляд было гадоў з пяць. Жанчыне, відаць, дваццаць пяць-дваццаць сем. Хлопчык такі маленькі, такі худзенькі, што без спачування нельга было глядзець на яго. Апрануты вельмі сціпла. Дарэчы, адзенне ў яго матулі не адпавядала модзе сённяшняга дня: паркалёвая сукенка простага фасону шчыльненька абхоплівала прывабную яе постаць. На нагах старамодныя чаравічкі і шкарпэткі даўнейшага фасону, якія мы насілі ў 70-х. Светлыя валасы, заплеценыя ў косы, хавала хустка з бацісту — тоненька-танюсенькая, з някідкім малюнкам па краях. Твар у яе быў белы.

Зірнула я на маладзіцу і падумала, што яна, відаць, ніколі не падмалёўвала вусны, не наносіла румяну на шчокі. Маці і сын сядзелі ціха. Жанчына пазірала ў акно, малы гуляў з чырвонай машынкай.

Цягнік непрыкметна крануўся і пачаў набіраць хуткасць. Зашавяліліся мае спадарожнікі-суседзі: збіраліся палуднаваць. Калі ля жонкі з'явіўся галодны муж, я пажадала «смачна есці» і хуценька ўступіла сваё месца, а сама перасела да маладых.

А што апетыт быў у гэтай пары адмысловы, красамоўна гаварылі прыпасы, якія неўзабаве з'явіліся на сурвэтцы, што разаслала на стале ружовашчокая кабета: свежыя агуркі, даволі тоўстыя кавалкі свініны, кружочкі розных каўбас, жоўтыя яйкі. Завяршала сервіроўку пузатая бутэлька віна.

«Як можна такую тлустую ежу ўжываць у такую гарачыню ды яшчэ запіваць моцнымі напоямі?» — падумала і не вельмі ласкава, нават гідліва зірнула на людзей, якія не зважалі ўвагі на нас, а ўплялі за дзве шчакі прадукты, часам прысмоктваючы. Дарослым было ўсё роўна, хто што рабіў і чым займаўся, толькі хлопчык касіў свае вачаняты на мужа і жонку і праз колькі часу нахіліўся над вухам матулі, гучна сказаўшы:

— Мамачка, я таксама хачу есці. Мы хутка будзем палуднаваць?

— Зараз, Федзечка, зараз, маё сонейка. Я толькі па вадзіцу схаджу, — адказала маці і прыхіліла малога да сябе, пацалавала ў выбеленую сонейкам галаву і ўстала. Падняла рукі да верхняй паліцы і пачала поркацца ў палатнянай торбе. Дастала з яе кубак і накіравалася да купэ праваднікоў. Прынесла кіпень, што выкручваў баранкі пару і на нейкі момант забавіў хлопчыка. Маці збірала на стол харч. Паклала пяць бульбін у лупіне, соль у карабку, у якім калісьці былі сярнічкі, некалькі лустачак тонка нарэзанага сыру. Рухі яе былі вытанчаныя і дакладныя. Праз некалькі хвілін яна працягнула «распрануты» клубень сыну. Федзька асцярожна ўзяў у рукі бульбінку і, перш чым адкусіць, пасаліў. Хлопчык вельмі дзёлікатна адкусваў сялянскі далікатэс, як і жаваў. І раптам малы папярхнуўся і закашляў. Матуля працягнула кубак з вадой і папрасіла:

— Цішэй, Федзечка, цішэй. Прагані бульбачку вадзіцаю, мякчэй пойдзе ў страўнік, і сыр вазьмі, трывалей будзе, — сказала і працягнула жоўтую лісцінку сыру. Федзя адкусіў спярша посную сухую бульбіну, потым сыр — і зноў закашляў. Малы душыўся клубнем, а муж з жонкай — смехам і тлустым жыццём. Я не магла больш назіраць за імі: слёзы пачалі збірацца ў вачах, і, каб не паказаць сваю бездапаможнасць, хуценька паднялася і выйшла ў тамбур. Стаяла даволі доўга, калі вярнулася да свайго месца, адна жанчына з хітрай усмешкай змахвала крошкі хлеба, другая ж — з суровым тварам збірала лупіннe. Сталы мужык падаўся на сваю бакавушку, раскінуў ногі, быццам варотцы загарадкі, у якой стаяла свінчо, выкаціў жывот і з задавальненнем захроп. Маленькі ж мужчынка ляжаў на верхняй паліцы, і яго сінія, быццам пралескі, вочкі глядзелі ўверх. Што ён згадваў, пра што марыў — ніхто не ведаў, і ніхто не мог даведацца, бо кожны спадарожнік быў заняты сабою. І я не спытала, не хацела перашкаджаць малому, відаць, лятаць на аблоках. Я толькі пазірала на яго і чакала, калі ён сам пачне гутарку. Не дачакалася. Федзька праз нейкі час падклаў пад шчаку руку, заснуў. Спаў соладка, і па яго вуснах блукала шчаслівая ўсмешка. Мая ж суседка па купэ і яе тоўсты муж праз некалькі прыпынкаў выйшлі з вагона, уступіўшы месца яшчэ аднаму персанажу жыццёвай п'есы — шумнай, крэатыўнай жанчыне, якая неяк неспадзявана з'явілася перада мною і пачала рассыпаць словы, што каласок спелае зерне.

— Вы не можаце сабе ўявіць, з якімі цяжкасцямі я здабыла білет на гэты цягнік. Дзякуй міліцыянеру, дапамог. Думала, што сёння не змагу выехаць з горада, з гэтага страшнага горада, — стракатала яна і сачыла за маёй рэакцыяй. Потым спахапілася і вымавіла:

— Прабачце, я са сваімі праблемамі нават не прывіталася. Даруйце за такую бестактоўнасць. Давайце пазнаёмімся. Клічуць мяне Аксана.

Я таксама назвала сваё імя, але без усялякай ахвоты, але больш уважліва зірнула на жанчыну, якая была апранута ў касцюм няйначай як ад "куцюр". Хаця, шчыра кажучы, на ёй і лахманы б сядзелі прыгажэй, чым на брыдкай каралеве самыя дарагія ўборы.

— А вы далёка едзеце? — сядаючы насупраць мяне, спытала яна.

Я маўчала.

— А ўсё ж паразіты гэтыя мужыкі, — не ўнімалася маладзіца. — Я столькі вёрст адмахала спярша на папутках, потым аўтобусамі. Прыехала, а мужа не застала. Я так хацела сюрпрызам на яго галаву зваліцца! Не атрымалася. Размінуліся. Я — сюды, а ён — дадому, відаць. Але ж штосьці мне не верыцца, а датэлефанавацца не магу: абанент не адказвае. Не чыста тут. Ой, як не чыста! Можа, якую-небудзь маладзіцу завёў ды штоночкі гушкаецца з ёю. Калі гэта так, не здабраваць яму, ой, не здабраваць. Я ж Сцёпачку прыпомню ўсё: і жонак, і каханак, і розныя гулянкі.

— А навошта вам такі муж? — не вытрымала я, каб не папракнуць. — Кіньце, і канцы ў ваду.

— Добра казаць, «кіньце!», а каханне? Яно ж, як маланка, наляцела і запаліла маё нутро. Вы не можаце сабе ўявіць, які мой Сцяпан. Постаць, як у Апалона. Я тут не так даўно хварэла, дык ён мяне, быццам пушынку, падняў і да карэты хуткай дапамогі занёс. Хоць мне і дрэнна было, але я з задавальненнем слухала, калі доктарка гаварыла, што такіх мужыкоў сёння днём з агнём не знойдзеш. А ў вас які муж? — не ўнімалася Аксана.

— Ніякага няма, — схлусіла я і пачала праз аконнае шкло назіраць за хмарамі, якія белымі баранчыкамі бегалі па небе.

— І ў мяне б не было, каб не мая вынаходлівасць. Умець трэба абкручваць мужчын. Тыдня мне хапіла, каб Сцяпан ад сваёй жонкі збег.

— Знайшла чым ганарыцца, — перайшоўшы на «ты», папракнула я жанчыну. — Разбіла сям'ю. І не сорамна!

— Якая сям'я? Яны толькі-толькі пажаніліся. Увесь пасёлак ведаў пра іх адносіны і пра яе кавалераў. Лепш адразу разбегчыся, чым з недаверам жыць пад адным дахам. Ці я не так кажу? — засыпала мяне пытаннямі Аксана. — Затое цяпер мы з любым бы адно цэлае. Вось, заручальны пярсцёнак нядаўна падарыў. Блішчыць, яшчэ і як блішчыць! Не магу наглядзецца. Я яму ніколі не здраджу, — клялася Аксана якраз у той момант, калі ля нас спыніўся малады і прыгожы дзяцюк. Нахіліў галаву над вухам маёй расказчыцы і прашаптаў:

— Прыгажуня, а ці ёсць у цябе запаліць чым цыгарэтку?

— Ёсць, вось, — маланкава адрэагавала Аксана і працягнула хлопцу запальнічку.

— Можаце ўзяць, але на нейкі час, я ж таксама палю, — з загадкавай усмешкай, якой звычайна хочуць прывабіць да сябе кавалераў, гаварыла Аксана.

Хлопец узяў патрэбную рэч і накіраваўся ў тамбур. А верная жонка, якая некалькі хвілін таму клялася ў каханні мужу, пачала скручваць з пальца заручальны пярсцёнак, які так зжыўся з яе пальцам і ніяк не хацеў пакідаць дагледжаную руку, каб на нейкі час схавацца ў невялічкай сумачцы. Нарэшце яна здзёрла пярсцёнак і схавала ў кашалёк, але схаваць тое, што яна замужняя жанчына, не ўдалося. Бялюткі кружочак на загарэлай скуры не толькі выкрываў Аксанін падман, але быццам крычаў за яе на ўсё купэ: «Я замужам, я замужам!»

Але на гэты нямы крык ніхто не зважаў увагі, акрамя мяне, бо ніхто нічога не бачыў. Сляпой ураз зрабілася і Аксана. А мо не хацела бачыць, што ў чалавека ў руцэ была свая запальнічка, а на пальцы правай рукі блішчэў такі ж тоненькі паясок ад заручальнага пярсцёнка.

«Вось і яшчэ з'явіўся адзін герой сённяшняга падарожжа, — чамусьці падумала. — Напэўна, будзе клеіцца да Аксаны. Нездарма ж зняў пярсцёнак».

Я не памылілася. Прыгажун нечакана намаляваўся перад Аксанай, падзякаваў за запальнічку і адразу накінуў на яе сетку, сплеценую з кампліментаў і прыгожых слоў. Потым спахапіўся і, як напачатку Аксана, папрасіў прабачэння, што забыўся пазнаёміцца. Назваў сябе, спытаў, як клічуць нас.

— Я Аксана. Мая спадарожніца — Тося, — адрапартавала яна Віктару.

Я маўчала. У мяне ж знікла ўсялякая ахвота падтрымліваць гутарку, і я ўткнула свой твар у часопіс, але чытаць не змагла. Байка, якую сцішаным голасам баіў Аксане чалавек, адцягвала ўвагу ад артыкула, як і пераконвала ў тым, што да нас падсеў балбатун-выдумшчык, а мо і аферыст-бабнік, які праз некалькі хвілін раскажа самую неверагодную жыццёвую гісторыю, а мабыць папросіць грошай, а нашыя імёны запіша ў свой памінальнік ды перад мужчынамі будзе хваліцца, які ён герой-палюбоўнік...

— Аксаначка... Як пачую гэтае імя, мая кроў шпарчэй па жылах бяжыць. А ў скронях звініць, быццам там званочкі. Яны і вяртаюць мяне ў мінулае, да маёй прыгажуні Аксаны. Да маёй любай здрадніцы. Дарэчы, вы так да яе падобная. Такія ж рысы твару, усмешка, ямачкі ў шчоках. А рукі — што ў каралевы, — усё нахвальваў Віктар маю спадарожніцу.

Я адклала ўбок часопіс і зірнула на Аксану. Жанчына свяцілася. Яе танклявыя пальцы хваляваліся, перапляталіся, блыталіся, бы ніткі. Маладзіца не знала, што ёй рабіць і як рэагаваць на кампліменты. Яна вагалася, а Віктар не сціхаў:

— Аксаначка, а чаму вы маўчыце? Вам не цікава, чаму я сваю каханую назваў здрадніцай?

— Чаму ж? Вельмі. І што яна такое зрабіла? Пакрыўдзіла такога прыгажуна, відаць, тым, што пакахала іншага? — спытала жанчына.

— Яна не пакахала, мая Аксанка нарадзіла дзіця. Дзяўчынку. Маленькай ужо восем месяцаў, і па сённяшні дзень так і не прызналася, хто бацька Машы. Усё сцвярджае, што немаўлятка — мая дачушка. Я не памятаю, каб... Я ж амаль круглы год працую ў Расіі.

— Не трэба падазраваць чалавека, не высветліўшы ўсе абставіны, — заўважыла Аксана.

— Вось і высветлю. Толькі грошы вялікія трэба, каб зрабіць аналіз на ДНК. Пяцьсот даляраў, не менш.

— Казалі-мазалі.... Дарэмна будзеце такое рабіць, ой дарэмна, — не стрымалася я, каб не ўставіць свае пяць капеек. — Радуйцеся, што ваша жонка нарадзіла і ў вас ужо сапраўдная сям'я. Не крыўдзіце сваю Аксану. Гэтым учынкам вы перакрэсліце ўсё жывое і каштоўнае. За такі ганебны ўчынак яна можа вас выкінуць не толькі з кватэры, але і з сэрца свайго. А як цяжка жыць у абдымку з адзінотай...

— Я такі гарны хлопец — і буду адзін? Кіньце дурное. У мяне столькі дзяўчат, жанчын. Усе так хочуць пяшчоты, кахання. Яны ж, як смала, ліпнуць. Ды толькі на ўсіх здароўя няма.

— Так ужо і ліпнуць. Вы, мужчыны, перабольшваеце свае магчымасці, — злосна адказала я.

— А хочаце, я вам дакажу. Нават зараз, — і Віктар дастаў з кішэні запісную кніжку. Адкрыў і паднёс яе да маіх вачэй. Прыгожым почыркам былі ўпісаны прозвішчы і імёны жанчын: адрасы, нумары тэлефонаў.

— Ну, што вы на гэта скажаце? — пераможна выгукнуў Віктар.

— А гэта яшчэ не факт, — праз зубы выціснула я. — Пакуль даедзеце да канечнага прыпынку, яшчэ не з адной жанчынай ці дзяўчынай пазнаёміцеся і іх адрасы нанізаце на шарыкавую ручку. Мне непрыемна нават сядзець ля вас, тарарыш плаксівец, а не тое, што слухаць вашу пустую балбатню. Дзякуй богу, што хутка мой прыпынак, — сказала і паднялася. Потым павярнула галаву да Віктара і з запалам выпаліла: — Хіба вы мужык, калі кожнаму стрэчнаму расказваеце пра жанчыну, якая, пэўна ж, кахала і кахае. Навошта?

Я гаварыла, а Віктар маўчаў, быццам вады ў рот набраў. Думаю, ён не чакаў такой развязкі і такім паваротам справы быў збіты з панталыку. Я ж у нейкай ступені засталася задаволенай. Шкада, што ўсё накіпелае не змагла сказаць. Ды і ці трэба было больш сабе псаваць настрой і з кіслым тварам з'явіцца перад сястрой, у якой і без мяне хапае турбот.

Не развітваючыся, я халодна-калючa зірнула на сваіх спадарожнікаў і пакрочыла да выхаду, каб праз колькі хвілін не толькі пакінуць прыкрых мне людзей, але і выкінуць іх з са сваёй памяці. Тым больш, што мяне ўжо сустракаў родны горад, дзе кожны ліхтар быццам бы падміргваў жоўтымі вачыма, відаць, радуючыся нашай сустрэчы.

# «Лёс твой — свабода»

## З публікацый у «Літаратурнай Беларусі» розных гадоў



Ніл ГІЛЕВІЧ
(1931—2016)

### Ці не годзе?

*Вось і вылез з іх жыл і касцей
Дух нядобры, смуродны, агідны:
Беларускай ідэі дзяцей
Абзываюць фашыстамі злыдні.*

*Нашу мову, што продкі-дзяды
Звеку песцілі ў долі суровай,
Янычары, манкурты, злыбы
Абзываюць фашысцкаю мовай.*

*Нашу песню, якою народ
Волю-шчасце гукаў на прадвеснях,
Ачмурэлы ад лютасці зброд
Абзывае фашысцкаю песняй.*

*Нашу памяць, што з нетраў-глыбінь
Прарасла, каб нашчадкі-патомкі
Устаялі пад ветрам любым, —
Абзываюць фашысцкай падонкі.*

*І ніхто не заткне ім раты,
Не абсадзіць раз'юшанай банды.
Да чаго ж дажылі мы, браты?
Да якой папусціліся ганьбы?*

*Колькі будзем яшчэ мы цярпець
Гэты здзек, гэты глум, гэта гадства?
Ці нам суджана так і згібець
Ад дурнога свайго далікацтва?*

### Мой гнеў прарос са слёз майго дзіцяці

*Панок, што ў нашы дні
па ўласнай хэнці
Як дысідэнт падаўся на чужыну,
Прылюдна збэсціў крык
душы збалелай,
Што даляцеў здаля, з шасцідзясятых.*

*Шасцідзясятыя... Я помню, помню,
Як прыбягаў дадому з горкім плачам
Малы мой сын: «Там хлопчыкі ў двары
Б'юць кулакамі ў твар мяне за тое,
Што я па-беларуску гавару!..»*

*Ён мне крычаў з такою крыўдай гэта
І так глядзеў праз слёзы на мяне,
Як быццам я ва ўсім быў вінаваты.*

*Я суцяшаў, як мог, малога сына,
Як мог, дзікунства хлапчукоў
тлумачыў,
А на душы ў самога закіпала
Святая лютасць: «Ну, чакайце, злыдні,
Правадыры шчаслівай Беларусі,
Манкуртаў хросныя бацькі!
Яшчэ вам Гісторыя належнае аддасць!..»*

*Мой гнеў прарос са слёз майго дзіцяці.
І страшна мне было за лёс ягоны.
Але, да ганьбы, ведаў я, не дойдзе:
Бацькоўскай мовы не зрачэцца сын!*

*Табе, панок, не зразумець тых слёз,
Хоць і равеснік ты майму нашчадку:
Яшчэ з калыскі вызвалены быў ты
«От грубого, простого языка».
Панок!.. А ты часом не быў, прабач,
У тым двары і разам з хлапчукамі
Маё дзіця за мову не грумячыў?
Чаго ж бо так узяў цябе за рэбры
Мой успамін пра той дзіцячы плач?*

### Народ

*Народ! Калі ты ёсць народ,
А не бязвольны раб дармовы, —
Не дай пусціць сябе на звод:
Не выракайся роднай мовы!*

*Яна не горшая нічуць
За мовы іншых слынных нацый.
Таму — адрынь, адпрэч, адгудзь
Майстроў хлусні і махінацый!*

*Каб не загналі без пары
Цябе ў магілу злыдні-юды, —
Загавары, загавары
На роднай мове скрозь і ўсюды!*

*Загавары — каб свет наўсцяж
Пачуў твой голас валадарны!
Тады на дзедаўскіх касцях
Узыдзе лёс — як дзень бясхмарны.*

### Не падайце духам, хлопцы!

*Не падайце духам, хлопцы!
Адкіньце суздром сумнеў!
І гнеў не тапіце ў стопцы —
У сталь загартуйце гнеў!*

*Не трацьце надзей і веры,
Пакутнай зямлі сыны!
На вежах званіц збуцвелых
Мы ўдарым яшчэ ў званы!*

*Яшчэ мы абудзім сілы,
Што спяць да пары ў касцях.
Яшчэ мы на Шлях Гусіны
Уздымем наш Герб і Сцяг!*

*Каб бачыла ўся планета,
Каб ведала людства ўсё,
Якая вядзе нас мэта,
Што ў сэрцах сваіх нясём.*

*Не падайце ж духам, хлопцы!
Адкіньце суздром сумнеў!
І гнеў не тапіце ў стопцы —
У сталь загартуйце гнеў!*

### Дзе вы?

*— Дзе вы? Што робіце вы, Беларусі сыны? —
П'ём, залажыўшы сумленне
ў ламбард Сатаны.*

*— А ці яшчэ вы не ўсё, што ільга,
прапілі? —
Не! Дапіваем яшчэ. Вось — ізноў налілі.*

*— Дзіўна! Па-мойму,
вы ўсё прасцулячылі ўжо!
— Не! У запасе —
барыш ад прадажы крыжоў.*

*— Тых, што на храмах?
Што нам сцерагуць небасхіл?
— Тыя пасля. Напачатку —
з дзядоўскіх магіл.*

### Не пытаюся...

*Не пытаюся, бо знаю, Маці,
Знаю, што ім трэба ад Цябе —
Гэтым нелюдзям жандарскай масці,
Гэтай прагнай, хцівай галыцьбе.*

*Знаю, чым Ты іх так угнявіла,
Адчаго і шал на іх найшоў:
Воля, воля ім Твая няміла,
Уваскрэслая з магіл Дзядоў!*

*Не да смаку ім, што праўды светач
Азарыў Тваіх вякоў прастор,
Што, як роўная, Ты з цэлым светам
За адзін усаджваешся стол.*

*Ім нялюба, што на вольнай волі
Дыхаць робіцца Табе лягчэй,
Што дала Ты клятву — больш ніколі
Не ўгінаць перад ярмом плячэй.*

*Дык трымайся ж гэтай мужнай клятвы!
Не сагніся, Маці, і не ўкленч!
Не зважай, што нейкі найміт платны
Прымярае адэкватны фрэнч.*

*На сваёй зямлі адвечнай, Маці,
Не дадзім мы ўкрыжаваць Цябе —
Гэтым нелюдзям жандарскай масці,
Гэтай прагнай, хцівай галыцьбе!*

***

*Браты! Ачніцеся! Няўжо вам
Не чутна, хоць бы і скрозь сон,
Як прамаўляе божым словам
Да вашых сэрцаў вешчы звон?
Як кліча ён знайсці свой Кіцеж,
Паўстаць з прадоннай нематы...
Дык не прасніце ж, не ўпусціце ж
Час, Богам дадзены, браты!*

***

*Родная мова! Ты воч не расі!
Лёс твой — свабода.
Імення ты незалежнасць дасі
Духу народа.
Ты — чыя веліч, і моц, і краса
Толькі ўзыходзяць.
Ты — чыя слава наперадзе ўся,
Ў тысячагоддзях.*

***

*І зноў брыдота слоў пустых!
І зноў з экраннай рамкі цеснай
Якісь нявысветлены тып
Бялкамі бліскае злавесна.*

*І зноў крычыць пра Беларусь,
Маўляў: люблю і ганаруся,
Але ў вачах яго чамусь
Зусім не бачна Беларусі.*

*Каб хоць бы што ад той зямлі,
Што ўся замешана на ласцы,
На дабрыні, на цеплыні,
На мроях, светлых, як у казцы.*

*Пра Беларусь крычыць, аднак,
Як доўга слухаць я ні мусіў —
Каб хоць адзін маленькі знак,
Што гэта голас Беларусі.*

*Каб хоць бы што ад той душы,
Што ўся збалелася ад болю,
За гвалты дзякуй даючы,
За крыўды плацячы любоўю.*

*О, краю мой! Ты столькі знёс
Абраз — хапіла б на паўсвету.
Яшчэ і гэту ўскінуў лёс.
Няўжо знясеш яшчэ і гэту?*

***

*Усё гэта будзе абернута ў міф
Судом, што не хібіць ніколі.
І стлеюць паперы, паводле якіх —
Народу гібець у няволі.*

*Усё ператорыцца ў тлен спакваля,
Што мела трываласці знакі.
І здраднікаў косці адрыне зямля,
І іх парасцягнуць сабакі.*

***

*Сярод разнамоўных на свеце плямён
Ёсць рэдкі феномен — пачвары.
Па мове іх тут пазнавалі здавён,
А можна пазнаць і па твары.*

*У чым іх адметнасць, іх код племянны?
У тым, што, адрокшыся мовы,
Якой даражылі іх продкі, яны
І продкаў зрачыся гатовы.*



Фота planetabelarus.by

*Таму і гукае галоўны іх жрэц
Амаль што не з кожнай трыбуны:
«Пачвары! Тутэйшая мова — сырэц,
Не годны для будучай Думы.*

*Ніякае літасці к ёй, ні спагад!
З касцямі гламзайце ікласта!
З карэннем карчуйце! Як хмыз на лугах.
Як з сэрцаў — Вялікае Княства.*

*Карчуйце, пачвары, жывей і смялей,
Да ейнага плачу аглухшы!
І будзе ісці трыумфальна далей
«Язык наш, із лудшых найлудшы»!*

### Нават з амбону

*Божа праведны! Нават з амбону
Блаславляецца ўладным крыжом —
Не Свабода, не святасць Закону,
А душы беларускай пагром.*

*Пра якое яднанне ён кажа —
Гэты знаны вялебны святар?
Злыдзень рукі вяроўкаю вяжа,
Што паклалі вянок на алтар.*

*Пра якую духоўнасць вяшчае?
Пра якую маральнасць гудзе?
Злыдзень мову народа знішчае
І на вусны мне плямбу кладзе.*

*Пад якою харугвай святою
Ён пяе — каб і я падхапіў?
Злыдзень бруднай, паскуднай пятою
На святыні мае наступіў!*

*Для чаго ж, нібы дыму з кадзіла,
Напускае імглы ягамосць?
Каб забыў я, што наша Радзіма —
Гэта наша Радзіма і ёсць?*

*Марна, марна шчыруе вялебны!
Беларусь на планеце — адна.
Нашы продкі ў змаганнях палеглі
Не затым, каб згібела яна.*

*А затым, каб насуперак гвалту
Нейчай волі нялюдскай, сляпой,
Узрасла і набралася гарту
Пад уласнай харугвай святой.*

### Умяшанне ў чужую размову

*Ну так, на Парнасе не дзіўнае штосьць —
І графаманы, і фальсіфікатары.
І блазны з пароды юродзівых ёсць.
І нават, шануючы вас, правакатары.*

*Усякіх хапае. Ды што — графаман
Ці блазен? Пашліце іх к чортавай матары,
І будуць грымець вам на ўсю глухамань
Бясспрэчныя таленты і... правакатары.*

*Па чым іх адрозніць — ці гэны, ці не?
Па рэху, што коціцца ўдаль з перакатамі.
Так ёсць і так будзе, дзе вечна ў цане
Даносчыкі, сышчыкі і правакатары.*

### Да выхаду першых нумароў «Літаратурнай Беларусі»

*Нарэшце! Нарэшце пабачыў, адчуў.
Аж стала да слёзаў шчымліва ў грудзях.
Аж стала прасветла-святліста ўвачу.
Ёсць, ёсць беларускага думання сцяг!*

*Ёсць вера і вернасць. Ёсць сіла і моц.
І мараў разбежнасць. І стройнасць пісьма.
І гостра памкненняў. І чыстасць яснот.
А блуду і бруду — і на дух няма!*

# Страчаная цывілізацыя: Путкамеры



Леанід ЛАЎРЭШ

*(Працяг. Пачатак у №7 (277) «Літаратурнай Беларусі»*

Сябры сям'і пісалі, што дом Путкамераў для гасцей быў надзіва мілым і дзіўным паэтычным храмам. Усё тут, здавалася, дыхала і было прасякнута паэзіяй, пачынаючы ад самой гаспадыні і да самых нязначных дробязяў штодзённага жыцця. Ні ў чым не было свецкай раскошы і багацця, але без перабольшання можна было сказаць, што ва ўсім адчувалася раскоша і багацце паэтычнае, гэта значыць, што ўсё ў доме рабілася хутчэй дзеля эстэтычнага ўспрымання і задавальнення, а не з-за рэальных патрэбаў або матэрыяльнай карысці. Нават і жаночая хатняя гаспадарка, якой Марыля ахвотна і самастойна займалася. Напрыклад, яна заглядала ў кароўнік, стайню і ў фальварак не дзеля прадуктаў або нагляду панскім вокам. Каровы на яе покліч самі падыходзілі да ейных рук, коні ў стайні, асабліва любімая ездавая Гурыска, азіраліся, калі Марыля заходзіла, бо звычайна яна мела ў хустачцы соль або цукар. На яе голас пасля абеду да ганка з усіх бакоў двара збягаліся куры і качкі ды атачалі яе, бо яна сыпала ім з кошыка зерне або сабраныя са стала драбкі (магчыма, адсюль у «Пане Тадэвушу» Адама Міцкевіча вобраз Зосі з яе птушкамі). На тварах слуг была бачна жывая ветлівасць, і кожны з іх быў гатовы да загадаў гаспадыні, бо яна не патрабавала поўнай паслухмянасці, а была ў доме як бы «старэйшай паненкай», якая прыехала ў вёску на канікулы, сама забаўлялася напоўніцу і радая кожнаму зрабіць прыемнасць. Сапраўднае жаночае кіраванне домам было ў руках «старой гаспадыні» Грындзавай — былой нянькі гаспадара.

Праўнучка Ваўжынца і Марылі Путкамераў Яніна Жаўтоўска пісала пра сваіх прадзедаў: «Прадзед Ваўжынец любіў паляваць і гасцяваць па суседзях і не любіў праводзіць час у сваім доме. Яго жонка, істота сапраўды паэтычная, хадзіла ў белай сукні і вялікім саламяным капелюшы, не цікавілася практычнымі справамі, але, седзячы на галіне квітнеючай яблыні, чытала Байрана». Падобнае пісаў і Антоні Адынец: «Дык вось, я, як відавочца, сцвярджаю, што не ведаў іншай асобы, якая б так, як яна, пасавала для аб'екта "паэтычнага кахання", і гэта асабліва з боку паэтастудэнта і адэпта "прамяністай" тэорыі кахання. Не магла яна называцца прыгожай ва ўласцівым значэнні гэтага слова, але мела тую прыцягальнасць і прывабнасць, якія складаюць сутнасць і галоўную чароўнасць прыгажосці. Талія стройная, рост сярэдні, твар ясны і мілы, вочы блакітныя, погляд выразлівы і чулы, усмешка наіўная і разам гуллівая — дакладны выраз разумовага і эмацыйнага настрою яе душы. Начытаная, экзальтаваная, больш марыць, чым думае, яна сама па сабе ніколі не выйшла на святло з вясёлкавай імглы сваёй фантазіі, але менавіта сама гэтая імгла рабіла так, што таксама і для вачэй назіральнікаў яна ніколі не здавалася звычайнай, простай асобай; але дастаткова было паглядзець праз прызму кахання, каб заўважыць у ёй незямны, асіянаўскавоблачны феномен».

Да Путкамераў цягнуліся суседзі, з-за паэзіі Адама Міцкевіча Марыля для іх была «магнітам». Яна ўсім была рада і кожнаму рабіла нешта прыемнае. У лісце да Яна Чачота ва Уфу пасля 1829 года Марыля пісала, што зладзіла свой будуар і бібліятэку. Хацела б мець пару добрых кніг пра гаспадарку, агарод, птушак і інш. Яна не проста перапісвалася з ссыльнымі філаматамі і перажывала за іх, але і ўсяляк дапамагала матэрыяльна, пасылала кнігі, падарункі. Прафесар Пігонь назваў Марылю «заступніцай, заклікананай вышэйшай сілай, і дабрадзейкай ссыльных філаматаў».

Ваўжынца Путкамера заўсёды моцна турбаваў лёс і жыццё сялян, і таму Марыля вельмі старанна яму дапамагала і апекавалася дзецьмі і хворымі ў вёсцы альбо рыхтавала і пасылала ў поле бочкі квасу ці воцатнай вады для тых, хто працаваў падчас летняй спякоты. Таксама яна ахвотна суправаджала мужа пры наведванні ім сялянскіх хат, а часта нават і на паляванні з хартамі, якіх ён палка любіў, а яна была каля яго смелай амазонкай. Нават яго паляўнічыя сабакі, якіх Марыля зусім не любіла, былі для яе аб'ектам апекі, бо яна ведала, што гэта падабаецца мужу.

Антоні Адынец цікава апісвае паляванне, на якое Ваўжынец Путкамер запрасіў яго ў верасні 1825 года. Трошкі камічным быў момант прыезду паэта ў Бальценікі: «...я ўвайшоў у пакой <...> падчас апавядання пра выдуманую маю смерць ад рук забойцы, якім уражваў абаіх гаспадароў, проста з Вільні прыбыўшы, іх стары сусед, які выдумаў гэта падчас перакусу ў карчме, калі пасля цярплівага праслухоўвання ўсяго гэтага доўгага аповеду я сам прадставіўся яму як жывы, а ён гэта палічыў за недарэчны жарт "малакасоса". Гэтая дробная на першы погляд акалічнасць разам са спачуваннем з іх боку і маёй удзячнасцю яшчэ больш, вядома, умацавала сувязі ўзаемных адносін; а гэта паляўнічае гасцяванне ў іх паказвае такую поўную і выдатную карціну грамадскага жыцця і звычаяў на той час у Літве, што, хоць у сціплых рамках шляхецкага маёнтка, можа сысці за мініяцюрную копію даўняга панскага палявання...».

Больш за дзясятак добрых сяброў і суседзяў з'ехаліся тады



Ігнат ДАМЕЙКА, стрыечны брат Марылі ВЕРАШЧАКА-ПУТКАМЕР

ў госці да «пана Лорэнса», каб разам некалькі дзён паляваць ва ўласных і навакольных гушчарах. «Пра паляванне "з аблавай", якое цяпер усюды выкарыстоўваецца, тады не чуваць было нават у Літве. Паляванне было вайной, не разнёй. Таму кожны паляўнічы прыводзіў сваіх сабак. Такім чынам сабралася каля дваццаці зграяў і дзясятак павадкоў ганчакоў. Тыя, хто пад'язджаў, кожны дзень выходзілі з ганчакамі на світанні да прызначаных гушчараў, куды мы, стралкі, на брычках або, хто хацеў, верхам прыбывалі на ўсходзе сонца, і ражкі гралі ўверцюру гону. Паляванне калі ўдавалася, калі не — як выпадала, але каля абеду звычайна пад'язджала сама пані на павозцы альбо паамазонску верхам з абозам са снеданнем, якое падаграваліся ў лесе на распаленым вогнішчы. Яе сяброўкай абодва разы на працягу ўсяго гэтага збору была сваячка, суседка і сяброўка панна Вераніка ОстэнСакен, дачка барона (з Гайцюнішак), па прыгажосці, гумары і манерах як дзве кроплі вады падобная да вобраза Дыяны Вернон з аповесці Вальтэра Скота пад назвай "Роб Рой", тым больш што, як і тая, насіла зялёны капялюшык. Прыхільнікам яе быў пан Адам Рымша, сусед і вайсковы таварыш пана Лорэнса, які таксама па яго пратэкцыі праз пару гадоў ажаніўся з ёю; у час жа, пра які тут гаворка, верна суправаджаў яе на паляванні. Паколькі была такой смелай, а хутчэй, такой дзёрзкай амазонкай, ніхто іншы не меў ахвоты суправаджаць яе ў пагоні за ганчакамі, з якімі ўжо звычайна пасля абеду палявалі для забавы дам. На змярканні вярталіся дамоў, дзе ўжо палалі камінкі і чакалі накрытыя сталы. А што ж ужо казаць пра вясёлыя размовы і спрэчкі пры гэтых сталах і тых камінках! Сваркі, нібы <...> у "Пане Тадэвушу", узнаўляліся тут кожную хвіліну адносна таго ці іншага ганчака або харта, ці, дакладней, кожнага шарака ці ліса, які ўцёк ад хартоў і стрэлаў паляўнічых. Прыміральным аўтарытэтам накшталт "пана Войскага" бываў заўсёды ў такіх выпадках Жагота (Ігнат Дамейка) не праз узрост і не праз паляўнічую славу, а праз вясёлы гумар і сапраўды старашляхецкую дасціпнасць, якая, як некалі ў філарэцкіх колах, і тут рабіла яго душой сяброўскіх паляўнічых размоў і бесстароннім пасярэднікам спрэчак», — гэтак, з замілаваннем, успамінаў Антоні Адынец.

Аднак былой весялосці, такой, як калісьці, ужо не было, бо на сэрцы заўсёды была думка пра тых, якія ўжо не могуць радавацца жыццю разам з усімі. Пасля ссылкі Тамаша Зана і Яна Чачота адзіным паверaным даўніх успамінаў і пачуццяў Марылі застаўся яе стрыечны брат Ігнат Дамейка, які жыў у Заполлі пад наглядам паліцыі, для Ваўжынца ён быў сардэчным сябрам. Адынец пісаў пра Дамейку: «...прымусовае гаспадаранне ў Заполлі зусім не адпавядала ні прыхільнасцям яго, ні памкненням, а між тым цяжка было прадбачыць, як з таго парафіяльнага закавулка выбрацца на шырэйшы Божы свет. <...> Ці ж мог ён нават у марах пры бурлівым запале дапусціць або толькі ўжо прадбачыць, што некалі ў антыподах, паміж двума акіянамі, будзе вучыць нашчадкаў Картэза, як шукаць золата на Кардыльерах, і стане іх правадыром у вышэйшую еўрапейскую асвету, сістэму якой у Чылійскай Рэчы Паспалітай сам арганізаваў на ўзор Віленскага ўніверсітэта і дагэтуль гадоў пятнаццаць ім кіруе як рэктар універсітэта ў сталіцы Сант'яга і старшыня Найвышэйшай рады выхавання».

Ваўжынец і Марыля Путкамеры мелі трох дзяцей: сына Станіслава і дачок Зоф'ю (па мужы — Каліноўскую) і Караліну (па мужы — Рыхлевіч). Шчаслівы бацька казаў: «Мы не можам крыўдзіцца на жыццё, бо Бог даў нам слаўную Зосю, добрага Стася і таго галубочка», мелася на ўвазе Караліна. Зоф'я вучылася спевам у Ксаверыя Дэўбель, потым брала ўрокі спеваў у Станіслава Манюшкі. Яна цешыла бацькоў спевам балад і рамансаў Міцкевіча, нагадваючы аб далёкім мінулым.

Бальценікі знаходзіліся блізка ад Вільні, і малады Путкамер хоць і не быў сябрам таварыстваў, але завязаў добрыя стасункі з філаматамі і філарэтамі. Ён стаў сябрам таварыства дапамогі бедным студэнтам і таварыства шубраўцаў. Наведваў амаль што ўсе паседжанні шубраўцаў і ў Віленскім універсітэце слухаў лекцыі прафесараў Галухоўскага і Лялевеля.

Ваўжынец Путкамер выбіраўся куратарам Евангеліцка-Рэфарматарскага Сіноду ў Літве. На сваё невялікія фундушы пратэстанты ўтрымлівалі дваццаць збораў, гімназію ў Слуцку, віленскі калегіюм, некалькі дзясяткаў месцаў у алюмінату ў Слуцку, некалькі месцаў у Кейданах, шэсць вучняў у Дэрпце і чатыры ў Пецярбурзе. Пратэстанцкія парафіі ўваходзілі ў склад акруг — адпаведнікаў каталіцкіх дыяцэзій, хоць практычна, з-за малалікасці вернікаў, яны набліжаліся да каталіцкага дэканата.

Больш за дзесяць гадоў Ваўжынец Путкамер быў сябрам Евангеліцка-Рэфарматарскага сіноду ў Літве. За гэты час ён унёс праект аб надзяленні зямлёй сялян, якія належалі да пратэстанцкіх збораў, але праект таксама не дайшоў да выканання. У 1822 годзе ён уладзіў справы з радзівілаўскімі фундушамі для слуцкай школы. А ў 1823 годзе стары граф Аляксандр Путкамер прапанаваў Сіноду праект свайго сына аб адкрыцці ў Вільні друкарні, якая разам з паперняй павінна была служыць развіццю культуры ў былым ВКЛ. Дакумент складаўся з двух частак: першая датычыла мэты справы (там ёсць такія радкі: «...сцвярджаю, што чым больш клас сялян адукаваны, тым у большай ступені ведае ён пра неабходнасць паляпшэння свайго быту і паляпшае яго»), другая датычылася шляхоў рэалізацыі. Аўтар паклапаціўся пра ўсе падрабязнасці, але перыяд лібералізму прайшоў, і царызм пачаў «закручваць шрубы», распачаўся судовы працэс над філаматамі, і праект не быў рэалізаваны. У 1824 годзе была зачынена гімназія ў Кейданах, а супраць школы ў Слуцку былі высунутыя цяжкія абвінавачанні. Таму віленскі сінод даручыў свайму куратару вырашыць з рэктарам віленскага ўніверсітэта Пеліканам пытанне са школай у Слуцку і магчымасць пераўтварэння яе ў гімназію. Атрымаўшы дазвол ад рэктара і ад урада, у 1829 годзе ён пачаў будаваць новы корпус гімназіі. Пры закладцы ганаровага каменя Путкамер сказаў запамінальную прамову.

З часам слуцкая гімназія стала лепшай у Літве і падрыхтавала шмат людзей, якія засталіся гонарам беларускай і сусветнай культуры.

Увогуле, Ваўжынец Путкамер, «паручнік войск польскіх», кіраваў паседжаннямі Сінода ў якасці дырэктара у 1821, 1822, 1829 гадах.

Думаў Путкамер і пра развіццё прамысловасці ў краі. Ён бачыў бурнае развіццё прамысловасці ў Еўропе і разумеў значэнне, якое маюць розныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя таварыствы. У 1828 годзе заклаў першую на Літве фабрыку паперы (паперню), планаваў пабудаваць у сябе цукроўню, гарбарню і фабрыку сукна. Брак капіталу не дазволіў давесці гэтыя праекты да прыбытковага стану. Таму граф задумаў стварыць першае ў Літве прамысловае таварыства. Плануючы стварыць цукроўню як акцыянернае прадпрыемства, ён вёў перамовы з маршалкам губернскай шляхты Жабам і з прамыслоўцам Міхалам Макрыцкім. 15 чэрвеня 1838 года граф атрымаў Найвышэйшы указ, які дазваляў заснаваць кампанію. Путкамер вывучаў справу цукраварства на працуючых фабрыках, агітаваў багатых людзей, а сялянам Віленшчыны раздаваў насенне цукровых буракоў і гарантаваў закуп ураджаю. Але сабраць неабходную колькасць акцыянераў і грошай не ўдалося, шляхта не верыла ў перспектывы прамысловага таварыства.

Путкамер спрабаваў адкрыць гарбарны завод і адкрыў фабрыку сукна, але гэтыя пачынанні таксама не мелі абаротных капіталаў...

# «Мы не ведаем пра жыццё»: «Ваўка» Уладзіміра СЦЯПАНА

Пра прозу Уладзіміра Сцяпана напісана так многа, што нешта істотнае дадаць наўрад ці атрымаецца. Тое, што ён піша, як малюе акварэллю — празрыста і тонка, а дзе няўлоўна, з пропускам-растварэннем ці зліццём асобных слоў-штрыхоў — прагучала. Пра тое, што яговыя гісторыі маюць у сабе не проста зародак нечаканасці фіналу, які пачынае развівацца ад першага сказа і паступова вырастае, каб раптоўна нарадзіцца, але парадаксальнасць — тое, што кідае цябе літаральна на адваротны бок карцінкі, і ты бачыш яе зусім з іншага ракурсу, пісалі. Паўтарэннем будзе казаць пра майстэрства аўтара мінімумам сказаў і слоў стварыць атмасферу і вобраз. Пра высокую канцэнтрацыю сэнсаў і адценняў у прозе Сцяпана гаворана. І ўцісканне, спрасоўванне цэлай людской драмы (а то і трагедыі) у адну старонку адзначана ў ранейшых водгуках і рэцэнзіях.

Мне застаецца сказаць-паўтарыць: Уладзімір Сцяпан — з тых беларускіх асобаў, якія ствараюць нашу літаратуру. Такім чынам, кожная кніга такога аўтара — літаратурастваральная.

Выхад кнігі «Ваўка» мяне асабліва ўсцешыў тым фактам, што выданне адбылося ў маладзевым выдавецтве, ад пачатку «заточаным» пад новае, эксперыментальнае, андэграўнднае. А Уладзімір Сцяпан працуе ў жанры, які можна назваць не проста сталым, але і састарэлым. Ну каго сёння зацікавяць класічныя навэлы? І тым не менш, выдавецтва «Мяне няма» прапануе аўтару выдаць ягоную кнігу. Прычыну яны пазначылі: гэта вельмі якасная проза. Узор чысціні і дакладнасці, выверанасці кожнага сказа ў абзацы, кожнага слова ў сказе.

Не так даўно я ў ФБ пісаў пра працу Сцяпана, ягоную тэхніку, калі можна так сказаць. Адну невялікую навэлу ён правіў не менш за пяць разоў. Па слову, літаральна. Таму дзівіцца не даводзіцца: сапраўднае майстэрства не можа апынуцца па-за часам, састарэць ці зрабіцца неактуальным. Тым больш, у цэнтры ўвагі творчасці Сцяпана — чалавек.

Асаблівасць прозы Сцяпана: яговыя навэлы не атрымаецца пераказаць. У нейкі момант мне ўявілася, як гэты аўтар апынецца ў школьным падручніку. І вось уявім: недзе 6—7 клас, праходзяць Уладзіміра Сцяпана, кароткае апавяданне, яно якраз пра школьніка, і школа там згадваецца. Падымаецца які сераднячок, пачынае расказваць:

— У гэтым апавяданні… ну, там дзядзька адзін пайшоў на рыбу. А быў туман, і ён не пабачыў, а пачуў… Ён пачуў, як браканьеры… сетку выцягвалі і рыбу. Ну, яны там гаварылі між сабой, а дзядзька чуў. Яны гаварылі… Пра туман гаварылі… Яны яшчэ баяліся, каб іх ніхто не заўважыў. А тады… Тады хлопчык патэлефанаваў настаўніцы і сказаў, што ён у школу не прыйдзе, бо ў яго мамка памерла…

Але ж і насамрэч так ёсць у Сцяпана.




І насамрэч адтуль, з туману, пранікае ў нашу свядомасць чужая трагедыя і ўсё, што вакол яе, і апошнія словы хлопчыка прымушаюць затаіць дыханне — каб жа толькі не напалохаць гэтых рыбакоў…

Не пераказаць і многія іншыя назіранні і зацемкі. Пра бабу, якая ўсё жыццё ў вачах аўтара была ля ежы — ды не бачыў ён, каб сама яна калі ела.

Не, няўдзячная гэта справа — спрабаваць аналізаваць хоць нешта з гэтай кнігі. Гэта трэба чытаць — бо аўтар піша так, як быццам расказвае менавіта табе, даверліва і ціха, шчыра і з чаканнем разумення. Такімі аповедамі не хочацца ні з кім дзяліцца ўслых. Бо аўтар даверыўся табе.

Адзначу два моманты адносна гэтай кнігі. Першы — выданне. Вельмі прыемная ў руках кніга, добрая вокладка з клапанамі, удалы памер. Спадабалася вёрстка: трохі незвычайная, арыгінальны пачатак асобных навэл, выключна «злева», якую адразу і не заўважаеш быццам, бо яна дае абсалютна роўную шчыльнасць усіх радкоў тэксту, хай мы тут і не выроўніваем радкі па правым краі.

Другі момант: у прозе аўтара пабольшала невытлумачальнага, нават — містычнага. Цікава, як сам аўтар адносіцца да гэтай містыкі: ён прымае і даносіць яе нам як будзённую з'яву. Ну, хіба з доляй шчырага неўразумення, але фактычна без здзіўлення. У гэтым, маркую, чыста жыццёвы вопыт, а не спроба заінтрыгаваць чытача. Цяпер ужо аўтар мае права сказаць кожнаму і адстойваць сваё: ніхалеры мы не ведаем пра жыццё, так, хіба дробачку зверху калупнулі…

Уладзімір Сцяпан — адзіны на сёння навэліст у беларускай літаратуры. За ім — выдзеланая ніўка. Густоўная, акуратная, выпеставаная…

*Валерый ГАПЕЕЎ*

# «Перамена месцаў» Югасі КАЛЯДЫ

Не люблю камедый становішчаў. Тыя ж знакамітыя «У джазе толькі дзяўчаты», яшчэ шэраг фільмаў, дзе аднаго прымаюць за іншага. І ў літаратуры не люблю падобнага: вось звычайнага чалавека пераблыталі са шпіёнам і завярце… Па мне — танны прыём.

Таму быў у лёгкім шоку ад галівудскага, заезджанага літаральна сюжэту, які скарыстоўвае Югася Каляда ў сваёй новай кнізе: жанчыны мяняюцца целамі. Ды яшчэ якія: суддзя і недалёкая ў розуме хатняя работніца. І недзе нават пашкадаваў аўтарку: як жа няпроста будзе пераканаць чытача, падобнага мне, у вартасці патраціць час…

Але чытаць я пачаў. З дзвюх прычынаў. Бо чытаў першую кнігу Югасі Каляды, якая выйшла даўно, але помню захапленне, якое выклікаў у мяне той тэкст. Помню і водгук мэтраў на тую кнігу. І вось праз столькі гадоў маўчання — другая кніга прозы. Ну, як не пачытаць?

Другая прычына — у некалькіх першых старонках, літаральна пяці.

Ведаеце, мушу чытаць многа і вельмі рознага. І, паверце на слова, як жа мала сапраўднага, таленавітага, добрага пісьма! Як многа неахайнасці ў сучасных тэкстах, як драпае неміласэрна вочы элементарная непісьменнасць, якімі бездапаможнымі часам бываюць аўтары ў спробах стварыць свой свет хоць вонкава, не кажучы ўжо пра неабходнасць збудавання ўнутранага свету герояў. Які прымітыўны атрымліваецца псіхалагізм, як бязбожна хлусяць аўтары і хочуць, каб я верыў у тую хлусню…

Дык вось, першыя пяць старонак тэксту Югасі Каляды — і я ў тэксце. Калі больш дакладна — у сучасным цягніку Мінск-Гомель. Я бачу герояў, у мяне ўжо акрэсліліся думкі наконт іх характараў…

Праўду кажу: гэта сапраўдная асалода на сёння: чытаць добры, якасны беларускі тэкст, скажам так, у класічнай яго пабудове. Тэкст Югасі Каляды ад першай старонкі і да апошняй менавіта такі: вывераны, чысцюткі. І таленавіты. Глыбокі і складаны псіхалагізм, пранікненне ў думкі герояў аж да самага донца і адшукванне там даволі нечаканых момантаў. Кніга, якую не хацелася адкладваць на заўтра, і адначасова хацелася, каб падоўжыць хвіліны чытання.

Не будзе спойлерам сказаць пра тое, што насамрэч дзве жанчыны памяняліся целамі. Мне надзвычай цікава было, куды паверне аўтарка, ад гэтага, прынамсі, залежала (прызнаюся), ці буду я чытаць далей. І калі буду, дык з якой доляй скептыцызму. Што ж, вось раніца адной з такіх жанчын:

*«Гэта ўжо быў нават ня жа — а вусьціш, непраглядная, якая атачае з усіх бакоў, расплюшчвай вочы ці заплюшчвай — прамоіны сьвятла ня ўбачыш. І ў той самы час дзесьці ў нетрах Альбінінага мозгу працягвала функцыянаваць частка, абыякавая да ўсяго, якая манатонна апісвала рэальнасьць і занатоўвала рэфлексію. Гэтая частка мозгу цяпер рабіла выснову, што на Альбіну, відаць, нехта навёў ня проста закляцьце — а паўнаважкую, складаную і прафэсійную магію. Бо галоўны жах у яе выклікала не чароўнае пераўтварэньне, а немагчымасьць трапіць на працу».*

Асабіста для мяне з гэтага моманту ўсякая фантастыка і магія знікла. Пачыналася хай і неверагодная, але цалкам сабе жыццёвая сітуацыя. Адзначу: вельмі дынамічная, насычаная. І да апошняга незразумелая ў сваёй галоўнай загадцы: хто гэта зрабіў і дзеля чаго? Аддадзім належнае галоўнай гераіні: пытанне «Хто?» яе хвалюе мала. Дзеля чаго? Што яна павінна выправіць у сваім жыцці? Ці не ў сваім? Што змяніць і як змяніцца? Яна верыць у зваротнае вяртанне, цалкам прыняўшы перасяленне не проста як дадзенасць, а як заданне ёй асабіста. Ці не ёй?

Сітуацыя вырулілася ў абсалютна непрадбачаны фінал. Па праўдзе, не чакаў. Дый нават не хацелася гадаць, бо падзеі развіваліся так шпарка, а цэнь таямніцы толькі набрыньваў.

Экзістэнцыю гераіні (хоць кожнаму з герояў у кнізе хапіла месца для складаных рэфлексій) арганічна дапаўняе і дапамагае адчуць прастора навокал. Знаёмыя лакацыі Гомеля, парку, ракі… Тут, дарэчы, таксама хапае майстэрства аўтаркі ў стварэнні атмасферы, рознай. Ці то трывожнай, ці то абнадзейваючай.

*«Яна завітвала сюды нярэдка: тут прыемна сядзелася. Праз думкі пра мост, па-першае — як прыемна дошкі адгукаюцца на крокі, а па-другое — праз старажытны дамок колішняй духоўнай вучэльні з таўшчэзнымі сьценамі. Гэта быў яе пункт утульнасьці».*

Пяць слоў — дошкі прыемна адгукаюцца на крокі, — а вось раптоўна ўявілася, як насамрэч гэта бывае. Колькі герояў у раней чытаным хадзіла па дошках, масніцах, мастках, тратуарах, але першы раз — не брашу — прачытаў *«як прыемна дошкі адгукаюцца на крокі»*. Ну так, дробязь. Але з такіх дробязяў, як з тонкіх нітак, і тчэцца палатно тэксту, якое ахутвае, якому верыш.

Было б недастаткова і нават банальна казаць, што галоўная ідэя твора заключаецца ў механізме дасьледавання сітуацыі ці з'явы, калі для іх максімальна аб'ектыўнай ацэнкі чалавек павінен не проста вывучыць іх, але пабыць унутры. Так мовіць, адчуць на сваёй скуры. Хай сабе тэкст наўпрост і кранаецца гэтай тэмы, галоўнае ўсё ж іншае: чалавек. Ягонае сумленне, якое толькі і можа скіраваць на поўнае ўсведамленне прасторы і месца сябе ў ёй.

Чаго мне не хапіла, што падалося лішнім…

Не хапіла дробачкі прыватнага (нават — інтымнага) жыцця гераінь. Жанчына з чужым целам мусіць нейкі час правесці ў кватэры, ды не толькі правесці, а пражыць з чужым мужам. Ёсць месца для рэфлексій. Трэба аддаць належнае аўтарцы, з галоўнай гераіняй пытанне яна вырашыла досыць прыгожа і рэалістычна. Чаго не скажаш пра другую. Аўтарка наўмысна пакінула ў цяні гэты сектар існавання жанчын у розных целах? Хутчэй так. Аб мэтах можна паспрачацца.

Залішнім мне падаліся два апошнія эпізоды. Першы — пра агульную сустрэчу — досыць прадказальны. А вось другі, з новымі героямі і плануемай паездкай у Мінск напачатку падаўся рэальна не да месца. Ды тое было толькі адразу пасля прачытання. Услед за недаўменнем прыйшло разуменне схаванага намёку на яшчэ адну магчымую перамену. Ну і схаваным папярэджаннем: асцярожна, хуткасны сучасны цягнік «Гомель — Мінск» не абяцае захаванасць вашага «я».

**Перасцярога.** Сярод крытыкаў, давялося нейк пачуць, існуе такое: калі пра кнігу няма чаго сказаць надта добрага, можна напісаць, што чытаецца лёгка. Дык вось, «Перамена месцаў» якраз лёгка не чытаецца, канструкцыя сказаў часам даволі няпростая. Але сам тэкст мае пэўную рытміку і інтанацыю. І калі настроіцца на іх, тады з чытаннем адчуваеш унутраную плынь, якая дзе спакойная, дзе можа завіраваць, але пэўна нясе цябе да свайго фіналу.




…Кніга прачытана, звяраю цытаты — і вочы чапляюцца за радкі, абзацы. Тэкст адразу не адпускае, той самы паслясмак, які ўзнікае пасля добрага чытання, застаецца.

І яшчэ думаецца пра гэта: усе правілы — у законах, а я — не чалавек, а суд.

Гэта правільна? Ці такое ўжо бездакорнае рымскае права?

***P. S.*** Дазволю сабе выказацца пра вокладку. Безумоўна, нехта скажа, што гэта сучасна, стыльна, прышпільна, крута, крэатыўна etc. Для мяне — не. Тэндэнцыя выдавецтва да выдання кніг у вокладках аднага тыпу вядзе да знікнення індывідуальнасці самой кнігі і яе аўтара. Адзінастыльныя вокладкі пасуюць серыі кніг, але не розным аўтарам-аўтаркам і не розным жанрам. І яшчэ адно драпае балюча, што служыць той жа страце індывідуальнасці: навошта рабіць назву кнігі на ўсю вокладку, а імя аўтара пры гэтым «заганяць у вошы»? У гэтым ужо і не стыль, а (даруйце маю канспіралогію) незразумелая палітыка выдавецтва.

*Валерый ГАПЕЕЎ*

# Валерый БРУСАЎ: яго час прыйдзе заўтра?



Арсеній ЗАМАСЦЬЯНАЎ

## Паводле Дэфо і Дарвіна

Сын купца, з дзяцінства пагружаны ў кнігі, у летуценні, у акультную і прагматычную мудрасць, ён умеў і прыкідвацца, і гаварыць адкрыта... Яго бацька быў рэвалюцыянерам. У душы. «Дзелавога» чалавека з яго не выйшла: дабрабыту дамогся дзед паэта, які выйшаў з прыгонных сялян. А бацьку цікавілі то Пісараў і Чарнышэўскі, то нарадавольцы, то Маркс. Сімпатызаваў, чытаў, дапамагаў. І сына прыахвоціў да чытання па Дэфо і Дарвіну. Ён захапляўся тымі, хто ўзвышаў чалавека. «Пра прынцыпы матэрыялізму я даведаўся раней, чым навучыўся памнажаць», — распавядаў Валерый Брусаў. Праўда, з паэтаў у доме вадзіліся толькі кнігі Някрасава. Здавалася б, «спелы» стыль Брусава быў далёкі ад някрасаўскай школы, але яна не-не, ды і выяўлялася — і атрымліваліся не падобныя да сімвалістаў, але лепшыя ў Брусава вершы. Да някрасаўскага канону ён дадаў пагарду да маралі, уласцівую, як яму здавалася, антычным заваёўнікам.

Для яго важней былі не пошукі маральнага ідэалу, а інтэлектуальная заможнасць. Трэба было спазнаваць вялізны свет, усе яго эпохі. Ён пісаў пра сябе без перабольшанняў: «Я спецыяліст па біяграфіях Пушкіна і Цютчава... Дасведчаны ва ўсеагульнай гісторыі літаратуры... Ведаю магію, акультызм, спірытызм, дасведчаны ў алхіміі, астралогіі, тэасофіі. Апошнім часам вывучаў Вяргілія... У розныя перыяды жыцця я займаўся яшчэ, больш-менш старанна, Шэкспірам, Байранам, Баратынскім, Дантэ... Я даволі добра ведаю французскую і лацінскую мовы, нядрэнна італьянскую, кепска нямецкую, вучыўся англійскай і шведскай, зазіраў у граматыкі арабскай, габрэйскай і санскрыта. марыў быць матэматыкам, шмат чытаў па астраноміі». Усяго гэтага для Брусава было мала. Ён быў прагны да навук і мастацтваў — як Ламаносаў, якога добра разумеў.

Валерый Брусаў вучыўся на гісторыка ў Маскоўскім універсітэце, але ўжо студэнтам быў вядомы як паэт — незвычайны, вычварны, эпатажны. Ён гучней за іншых падарваў мерную постпушкініянскую плынь рускай паэзіі ў 1890-я. Таму і лічыў сябе рускім пасланцам сімвалізму і кіраўніком новага паэтычнага сусвету. Яго першы зборнік называўся, як і належыць, — «Chefs d'oeuvre», гэта значыць ні многа ні мала — «Шэдэўры». «Не сучаснікам і нават не чалавецтву завяшчаю я гэтую кнігу, а вечнасці і мастацтву», — ганарліва прысвячаў аўтар сваё тварэнне. Дзясяткі лаянкавых рэцэнзій на гэтую кнігу прынеслі паэту першую вядомасць. Ён ператварыўся ў падбухторшчыка спакою, у правадыра новага літаратурнага кірунку.

## Дэміург і рацыяналіст

У адрозненне ад іншых адэптаў новай літаратурнай веры, ён не адмаўляў папярэднікаў. Любіў і глыбока ведаў Пушкіна. Але сам пісаў інакш. Ён не толькі пісаў, але і ствараў індустрыю сімвалізму. У 1900 годзе ён стварыў выдавецтва «Скарпіён», а праз чатыры гады — часопіс «Весы», галоўны орган новай паэзіі. Стаў дырэктарам Маскоўскага літаратурна-мастацкага гуртка, але галоўнае — заканадаўцам мод у славеснасці. У прызначаны час ён прымаў маладых паэтаў, ніколі не спазняўся. «Пішыце кожны дзень, пішыце шмат, а выкідвайце яшчэ больш», — такая была ўпадабаная ментарская парада Брусава. Яму гэты метад дапамог выпрацаваць гнуткую паэтычную мову, якая падыходзіць для любога жанру і сюжэту.

Служэнне сімвалам, выбудоўванне містычных сістэм — усё гэта было для яго зменай масак. Значна больш арганічны для Брусава рацыяналізм. Яго стыль, яго вобраз ашаламляльна адрозніваўся ад сучаснікаў-сімвалістаў — Канстанціна Бальмонта, Аляксандра Блока, Андрэя Белага, якія чаравалі «луналі ў абloках». Брусаў у вершах — мужны, цвёрды заваёўнік, моцная асоба. Праўда, з густым адценнем балючай неўрастэніі. Любімым брусаўскім гістарычным героем быў Аляксандр Македонскі, які, калі верыць гістарычным легендам, таксама спалучаў у сабе гэтыя рысы. Яго скандальная ранняя папулярнасць была звязана шмат у чым з эпатажнымі паэтычнымі акцыямі — такімі, як публікацыя аднарадкоўя «О, закрой свои бледные ноги», сэнс якога, бянтэжачыся, спрабавалі разгадаць курсісткі і студэнты. Пасля гэтага ўсё, што ён пісаў, выклікала цікавасць.

Мабыць, сёння ў яго няма рэпутацыі вялікага паэта. І цара цароў, якім лічыў сябе Валерый Брусаў, які любіў урачыстыя і грозныя жэсты. Але ўсё ж гэта адзіны ў сваім родзе лёс — адзін з першых, знакавых творцаў Сярэбранага веку, ён стаў заснавальнікам не толькі савецкай літаратуры, але і высокай савецкай культуры. Гэта фенаменальна.

Як ненавідзелі яго за гэта на эміграцыі! Яны ў той час яшчэ не ўмелі быць хаця б крышачку аб'ектыўнымі — у ход ішлі любыя абвінавачанні толькі за тое, што былы кумір супрацоўнічаў з бальшавікамі і нават стаў камуністам — самым сапраўдным, з партыйным білетам. І як пагляды эмігрантаў — нават такіх, як Марына Цвятаева — адрозніваюцца ад уражанняў пра Брусава тых, хто застаўся. А гэта таксама былі фігуры непаўторныя — як Андрэй Белы. «Яго імя можна паставіць разам толькі з Пушкіным, Лермантавым, Цютчавым, Фетам, Някрасавым і Баратынскім. Ён даў нам узоры вечнай паэзіі. Ён навучыў нас па-новаму адчуваць верш. Але і ў гэтым новым для нас успрыманні верша



Валерый БРУСАЎ. Партрэт работы С. МАЛЮЦІНА. 1913 г.

яркім бляскам азарыліся прыёмы Пушкіна, Цютчава і Баратынскага. Тое новае, чаму далучыў нас Брусаў, патрапіла ў рэчышча развіцця паэзіі айчыннай. На апошніх гранях адвагі на Брусаве заблішчаў вянок свяшчэннай пераемнасці. Ад паўсядзённага пайшоў ён у туман шуканняў. Але толькі там, за туманам няяснага заходзячага сонца пушкінскай цэласнасці азалаціла пругкі верш яго. Ён — паэт, пасвечаны лепшым мінулым», — пісаў Белы пра Брусава. І, нягледзячы на некаторыя непаразуменні паміж імі, заўсёды лічыў аўтара «Tertia Vigilia» геніем.

## Брусаўская школа

Калісьці Мікалай Гумілёў сцвярджаў: «Нездарма словы "брусаўская школа" гучаць гэтак жа натуральна і зразумела, як школа парнаская ці рамантычная. Сапраўды, заваёўнік, але не авантурыст, асцярожны, але і рашучы, ашчадны, як геніяльны стратэг, Валерый Брусаў засвоіў характэрныя рысы ўсіх былых да яго літаратурных школ, мабыць, да «эўфуізму» улучна. Але ён дадаў да іх нешта такое, што прымусіла іх загарэцца новым агнём і забыць ранейшыя звады. Можа быць, гэта нешта і ёсць падставай новай школы, якая ідзе на змену сімвалізму; бо казаў жа Андрэй Белы, што Брусаў перадае свае запаветы праз галовы сучаснікаў. Гумілёў сапраўды быў вучнем Брусава — больш, чым хто-небудзь іншы. У яго ён успрыняў мужны стыль, такі рэдкі ў рускай паэзіі з сярэдзіны XIX стагоддзя да савецкіх часоў. А ўжо потым гэтую інтанацыю на свой лад паўтарылі вельмі многія.

Вядома, што адзін з найталенавітых беларускіх паэтаў Уладзімір Дубоўка таксама прайшоў брусаўскую школу — калі вучыўся ў яго ным універсітэце ў Маскве (і быў адным з лепшых вучняў тагачаснага мэтра).

## «Вы кранулі мяне за сэрца»

Ён прыняў усе рэвалюцыі, сучаснікам якіх быў: і 1905 года, і Лютаўскую, і Кастрычніцкую. Яшчэ да Кастрычніка заступіўся за Горкага, якога тады папракалі ў сяброўстве з бальшавікамі.

Яны не былі блізкія — Горкі і Брусаў. Прыкладна тады Горкі пісаў яму: «Вы вельмі кранулі мяне за сэрца, Валеры Якаўлевіч... я ганаруся, што менавіта Вы даслалі мне слаўнае пісьмо. Мы з Вамі рэдка сустракаліся. Вы мала ведаеце мяне, і мы, верагодна, далёкія адзін аднаму па духу нашаму, але па разнастайнасці і супярэчнасці інтарэсаў, імкненняў... Даўно і пільна сачу я за Вашым падзвіжніцкім жыццём, за Вашай культурнай працай, і я заўсёды кажу пра Вас: гэта самы культурны пісьменнік на Русі! Лепшай пахвалы — не ведаю: гэтая — шчырая».

Яго бальшавізм многія лічылі праявай баязлівасці. Так казалі тыя, хто выпрошвалі грошы ў Луначарскага, некалькі гадоў трэсліся пры тых жа бальшавіках, стараліся ніяк і ні ў чым не праявіцца — а потым знайшлі магчымасць уцячы за кардон. Бо з крытыкай бальшавікоў у друку выступалі, мабыць, толькі двое: Горкі і Уладзімір Караленка. Абодва — рэвалюцыянеры, якіх белая эміграцыя таксама трываць не магла. Астатнія — у тым ліку і Бунін — аддавалі перавагу выліваць жоўць у дзённікавых запісах і ў прыватных гутарках. Пакуль не аказаліся ў Парыжы. Цішком ён разважаў так: «Пра Брусава: усё лявее, амаль ужо "форменны бальшавік". Нядзіўна. У 1904 годзе ўзвялічваў самадзяржаўе, патрабаваў (зусім Цютчаў!) неадкладнага ўзяцця Канстанцінопаля. У 1905 з'явіўся з "Кінжалом" у "Борьбе" Горкага. З пачатку вайны з немцамі стаў ура-патрыётам. Цяпер бальшавік».

## Лінейка мэтра

Яму было за што паважаць новую ўладу. Яна адрынула рэлігіі, саслоўі. Так, першыя крокі рэвалюцыі выглядалі ваўкавата. Але ён ведаў: па гісторыі Францыі, па гісторыі Старажытнага Рыма — што так і павінна быць. Так працякае выздараўленне. Ён разумеў, што Анатоль Васільевіч Луначарскі — не з вялікіх творцаў. Бачыў у ім сярэдненькага літаратара. Але і — значнага арганізатара, летуценніка. Раней такіх амаль не было ва ўладзе... Яны захапляліся адзін адным. Брусаў, як заўсёды, трымаўся мэтрам, а Луначарскі разумеў: тое, што такі чалавек працуе на савецкую культуру — неверагодная ўдача. Брусаў не шкадаваў сіл, вучыў «лінейкай» не толькі маладых паэтаў. Ён ствараў сістэму, якая аказалася моцнай. Да гэтага часу ў значнай ступені менавіта яна нас трымае. А больш за ўсё ў «новым свеце» яму да душы прыйшлося ўслаўленне працы. «У свеце слоў разнастайных... Усіх цудоўней слова "праца"». Для Брусава гэта не проста дэкларацыя, а лад жыцця. Да таго ж, атрымаўшы мандат наркамасветы, ён стаў свайго роду кіраўніком паэтычнага цэха: яго рэцэнзіі сталі дырэктыўнымі, Брусаў прымаў рашэнні — выдаваць ці не выдаваць тую ці іншую кнігу. Да літаратурнай улады ён імкнуўся заўсёды. Ва ўмовах планавай эканомікі яна магла стаць ледзь ці не абсалютнай.

У ленінскай палітыцы яго, па вялікім рахунку, не задавальняла адно: Брэсцкі мір. Паэт спадзяваўся, што краіна будзе ваяваць да перамогі. Астатняе Брусаў лічыў прыдатным пачаткам для будаўніцтва ідэальнага грамадства, аб якім марылі Фрэнсіс Бэкан і Тамаза Кампанэла. Яго бянтэжыла галеча, засмучалі недахопы ўсяго, але ў гэтым Брусаў бачыў хваробы росту — і, відаць, не памыляўся.

## Ён бачыў будучыню

Былыя сябры праклінаплі яго. Але Брусаў, нягледзячы на ўсё сваё пазёрства, валодаў гістарычным далёкабачаннем — не толькі па дыпломе і масе прачытанага. У пачатку стагоддзя ён бачыў, што будучыня за мулярам, які яшчэ расправіць плечы. Потым прадказваў, што будучыя гуны знішчаць стары свет. А ў рэвалюцыйным хаосе (які не адпавядаў яго характару, яго стылю жыцця) ён бачыў будучы гарманічны савецкі ўклад, заснаваны на веры ў навуку. У значнай ступені і гэтае прароцтва Брусава спраўдзілася. Прынамсі, ён аказаўся значна больш цвярозым і праніклівым за тых, хто бачыў у бальшавіках ледзь не ажыўшых чарцей і ваўкалакаў.

Ён быў выдатным версіфікатарам. У кнізе «Опыты» змясціў вершы на самыя розныя памеры, самыя дзіўныя для расійскай мовы. І часам атрымлівалася нядрэнна — хоць гэта задача амаль невыканальная. Ды і яго верш «Помнік», складзены ў 1912 годзе — цудоўная варыяцыя на тэмы Гарацыя, Дзяржавіна і Пушкіна. Ён куды ганарлівей сваіх папярэднікаў — гэта таксама пастава.

Славы з вялікай літары ён усё ж не набыў. Але ў яго кнігах многія яшчэ знойдуць карысць — а Брусаў да гэтага і імкнуўся, калі адкінуць гучныя словы. Менавіта яму належыць ідэя літаратурнай адукацыі ў спецыяльнай навучальнай установе — правобраз будучага Літаратурнага інстытута.

Ён выглядаў дужым, не быў стары, але пасля 45-ці хварэў усё часцей, хоць не адхіляўся ад літаратурнага жыцця. Наадварот, адбудоўваў яго. І пісаў да апошніх дзён: вершы, просценькія газетныя артыкулы і выкшталцоныя, мудрыя даследаванні, якія трэба было б перачытваць.

Пахаванне літаратурнага мэтра, які прыняў савецкую ўладу, ператварылася ў сапраўдны спектакль. Жалобны картэж павольна рухаўся ад маскоўскай Кухарской да Новадзявочых могілак. Каля помніка Пушкіну, каля Массавета, ва ўніверсітэцкім садзе на Махавой і ў двары Акадэміі мастацтваў на Прачысцінцы прайшлі мітынгі, на якіх выступалі Мікалай Бухарын і Ота Шміт. Прамовы гучалі па ўсім горадзе. Брусава ўслаўлялі.

Як ні дзіўна, яму б спадабалася такое развітанне. У дзень пахавання пяцідзесяцігадовага паэта выйшаў яго апошні зборнік, названы, як звычайна, па-лацінску — «Меа!», што азначае «Спяшайся!». Ён спяшаўся пісаць, працаваць, спазнаваць.

У літаратуры застаўся яго рысіны погляд і размовы пра адзіны ў сваім родзе лёс. Магчыма, па вялікім рахунку, яго час прыйдзе заўтра.

## «Свет вачыма ШАЎЧЭНКІ»

З такой назвай у цэнтры Кіева з'явілася незвычайная інсталяцыя — пяціметровы бюст Тараса Шаўчэнкі. Унутры інсталяцыі ўсталяваныя спецыяльныя вочкавыя шчыліны, праз якія можна ўбачыць больш за 80 помнікаў Кабзару ў 37 краінах свету. Таксама каля бюста можна пачуць вершы паэта ў выкананні Багдана Ступкі, а для наведвальнікаў даступны інтэрактыўны тэст на веданне яго творчасці.



Міністр замежных спраў Украіны Андрэй Сыбіга адзначыў, што чатыры гады таму быў зафіксаваны рэкорд Тараса Шаўчэнкі сярод дзеячаў культуры па колькасці ўсталяваных яму помнікаў у свеце. «Гэты факт — не проста статыстыка, ён падкрэслівае прысутнасць Украіны ў сусветным кантэксце. Мы там, дзе нашыя каштоўнасці, нашая памяць і наша слова, якое ўваскрасіў вялікі Кабзар. І дзе ёсць украінцы, там і наш Шаўчэнка, праваднік і ўказальнік для пакаленняў украінцаў», — сказаў ён.

## Адзежа да 130-годдзя ЯСЕНІНА

Дызайнеры «O'STIN» сумесна з сэрвісам «Яндэкс Кнігі» ўявілі, якім мог бы быць стыль Сяргея Ясеніна сёння — і стварылі калекцыю, якая «перадае дух і эстэтыку паэта праз формы, фактуры і шрыфт». Галоўную частку новай калекцыі «Ясенін» займаюць вершы: на футболках, кашулях і аксэсуарах размешчаны прынты і вышыўкі з радкамі твораў паэта. Таксама сярод прынтаў — архіўны партрэт паэта з Маскоўскага дзяржаўнага музея С. Ясеніна.



«У кастрычніку будзе 130 гадоў з дня нараджэння Ясеніна, і мы ў "Яндэкс Кнігах" вырашылі адзначыць гэтую падзею нестандартна. Для нас калекцыя з "Остынам" — спосаб паказаць, што літаратура можа жыць не толькі ў кнігах, але і ў паўсядзённых рэчах, становячыся часткай стылю. Цяпер пасля чарговага "дотыку" да творчасці паэта можна будзе выказаць свае пачуцці яшчэ і праз візуальныя вобразы», — пракаментавала Дар'я Анжэла, дырэктар па маркетынгу «Яндэкс Кніг».

## Пісьменнікі і штучны інтэлект

Эксперты даследчага аддзела карпарацыі Microsoft высветлілі, што пісьменнікі і перакладчыкі выкарыстоўваюць штучны інтэлект (ШІ) у сваёй працы часцей, чым людзі іншых прафесій, і назвалі топ-40 прафесій «з найвышэйшым рэйтынгам дастасавальнасці ШІ». Аналітыкі Microsoft Research вывучылі працоўныя задачы, якія выконваюцца людзьмі розных прафесій з дапамогай штучнага інтэлекту, «з мэтай зразумець маштаб яго ўплыву на эканоміку». «Мы выявілі, што найбольш распаўсюджаныя працоўныя віды дзейнасці, у якіх людзі звяртаюцца па дапамогу да ШІ, уключаюць збор інфармацыі і напісанне, у той час як найбольш распаўсюджаныя віды дзейнасці, якія выконвае сам ШІ, — гэта прадастаўленне інфармацыі і дапамогі, напісанне, навучанне і кансультаванне», — адзначылі эксперты Microsoft Research.

Топ-40 прафесій з найвышэйшым рэйтынгам дастасавальнасці ШІ ўзначалілі перакладчыкі (пісьмовыя і вусныя). На трэцім месцы ў рэйтынгу апынуліся гісторыкі, затым — супрацоўнікі службаў кліенцкай падтрымкі, сцюарды, пісьменнікі, прадаўцы, распрацоўшчыкі рашэнняў з лічбавым праграмным кіраваннем (CNC), тэлефонныя аператары, касіры білетных сэрвісаў, а таксама радыёвядучыя і дыджэі. Найменшы працэнт дастасавальнасці ШІ назіраецца сярод прафесій, звязаных з фізічнай працай. У топ-40 трапілі флебатамісты, памочнікі медсясцёр, работнікі па выдаленні небяспечных матэрыялаў, бальзаміроўшчыкі, аператары ўстановак і сістэм, сківічна-тварныя хірургі, пратэзісты. «Мы ўсталявалі, як магчымасці ШІ



перасякаюцца з працоўнай дзейнасцю, але яшчэ трэба будзе высветліць, як розныя прафесіі перабудоўваюць свае працоўныя абавязкі ў адказ на хуткі прагрэс ШІ», — падвялі вынік даследавання аналітыкі Microsoft Research.

## З ПУШКІНЫМ у чаце...

На сайце шоў «Сны Пушкіна» можна паразмаўляць з лічбавым двайніком паэта.

На сайце цыркавога тэатралізаванага шоў «Сны Пушкіна» з'явіўся ШІ-аватар Аляксандра Сяргеевіча. Творы паэта, яго лісты, дзённікі, чарнавікі і пераклады, а таксама мноства гістарычных дэталяў яго эпохі былі інтэграваныя ў мадэль ШІ. З віртуальным Пушкіным можна «проста пабалбатаць» ці пагуляць у розныя гульні («Угадай слова», «Гарады» і іншыя). А ў раздзеле «Медытацыя сну» можна «запаволіцца» і «пагрузіцца ў свет мар».

## Лічбавы ВЫСОЦКІ

Лічбавы аватар Уладзіміра Высоцкага «выступіць» 24 кастрычніка на сцэне «Live Арэны» ў Маскве.

Генеральны дырэктар кампаніі «Лічбавыя легенды» і прадзюсэр шоў Аляксандр Мамонаў расказаў, што дапамогу пры стварэнні праекта аказалі родныя і блізкія Высоцкага, у тым ліку Нікіта Высоцкі: «Пры падрыхтоўцы шоў мы вельмі глыбока пагрузіліся ў творчасць і асобасныя асаблівасці Уладзіміра Высоцкага, нашая каманда працавала з архіўнымі дакументамі, запісамі, фота і відэамалюнкамі».



Паводле Мамонава, шоў стане магчымасцю для ўзаемадзеяння маладога пакалення з творчасцю Высоцкага: «Наш праект выступае і свайго роду культурным мастом паміж пакаленнямі, які дазваляе старэйшаму і маладзейшаму пакаленню зразумець адзін аднаго». На сайце Live Арэны ўдакладняецца, што стваральнікі праекта аднавілі не толькі вобраз і не толькі голас Высоцкага...

## «Хобіт» за 43 тысячы фунтаў

Першае выданне «Хобіта» Джона Рональда Руэла Толкіна было прададзена на аўкцыёне ў Вялікабрытаніі. Лот сышоў з малатка за 43 тысячы фунтаў стэрлінгаў.

Кніга была знойдзена падчас уборкі ў адным з дамоў у Брысталі. Яна належала да першай серыі са 1500 асобнікаў, выдадзенай у 1937 годзе.

Аўкцыённы дом «Auctioneum» адзначыў, што ў свеце захавалася толькі некалькі сотняў такіх кніг. Гэты асобнік захоўваўся ў сямейнай бібліятэцы батаніка Х'юберта Прыстлі, які меў сувязі з Оксфардам. Паводле слоў аўкцыяніста, Прыстлі, магчыма, быў знаёмы з Толкіным — пісьменнік таксама працаваў у Оксфардзе.

Кніга была знойдзена на звычайнай кніжнай паліцы. «Ніхто б не здагадаўся, што гэтая кніга там. Звычайная паліца. Але адразу стала зразумела, што гэта ранняе вы-




данне "Хобіта", і калі я пачала яго праглядаць, я зусім не чакала, што гэта сапраўднае першае выданне», — сказала Кейтлін Райлі, эксперт па рэдкіх кнігах.

Кніга мае светла-зялёную тканінную вокладку і ілюстрацыі, зробленыя самім Толкінам. З-за вялікага попыту з розных краін цана на гэты асобнік перавысіла папярэднюю ацэнку ў чатыры разы. «Гэта выдатны вынік для абсалютна ўнікальнай кнігі», — дадала Кейтлін Райлі.

Раман «Хобіт, або Туды і назад» быў упершыню апублікаваны ў 1937 годзе. З таго часу было прададзена больш за 100 мільёнаў асобнікаў. Сюжэт сканцэнтраваны на падарожжы хобіта Більба Бэгінса, які разам з Гэндальфам і гномамі адпраўляецца на пошукі скарбаў, якія ахоўвае цмок. Гэтая кніга стала класікай фэнтэзі і прыквелам-перадгісторыяй да «Уладара пярсцёнкаў».

У 2015 годзе адно з выданняў з асабістымі нататкамі Толкіна на эльфійскай мове было прададзена за 137 000 фунтаў стэрлінгаў.

## 12 прычын, чаму чытанне паляпшае жыццё

Людзям, якія чытаюць кнігі, звычайна не патрэбна дадатковая матывацыя, але даследаванні, праведзеныя навукоўцамі, паказваюць, што тыя, хто выбірае гэты спосаб баўлення вольнага часу, цалкам маюць рацыю: чытанне аказвае істотны станоўчы ўплыў на вашае жыццё.

**1. Чытанне зніжае рызыку хваробы Альцгеймера.**

Даследаванне, праведзенае ў «Proceedings of the National Academy of Sciences», паказвае, што пажылыя людзі, якія чытаюць, маюць у 2,5 разы меншую рызыку развіцця хваробы Альцгеймера. Між тым, прагляд тэлебачання, наадварот, можа стаць адным з заняткаў, якія ўплываюць на развіццё гэтай хваробы!

**2. Чытанне азначае, што вы ўвесь час вывучаеце нешта новае і набываеце веды.**

Даследаванне Anne E. Cunningham «Што чытанне робіць для розуму» паказала, як чытанне робіць вас разумнейшым чалавекам. Чытанне не толькі дае новую інфармацыю, але і дазваляе захаваць веды ў старасці. Нават калі вы свядома гэтага не заўважаеце, чытанне дае вам пэўную інфармацыю, і вы ніколі не ведаеце, дзе яна вам зможа спатрэбіцца.

**3. Людзі, якія чытаюць, больш актыўна галасуюць, атрымліваюць адукацыю і цікавяцца культурай.**

Даследаванне, праведзенае Нацыянальным фондам мастацтваў, паказала, што людзі, якія рэгулярна чытаюць, больш па-грамадзянску і культурна актыўныя. Такім чынам, чытанне дапамагае атрымаць ад жыцця больш карысці.

**4. Чытанне зніжае стрэс і падымае настрой.**

Чытанне дапамагае забыць непрыемнасці, выклікае эмацыйнае ажыўленне. Усяго 6 хвілін чытання зніжаюць узровень стрэсу на 68 адсоткаў!

**5. Чытанне можа быць тэрапеўтычным інструментам.**

Даследчык Крыстэль Расэл сцвярджае, што чытанне — гэтак жа, як праслухоўванне музыкі або прагляд фільма — можа дапамагчы вам перажыць мінулы вопыт і паглядзець на яго з новага пункту гледжання. Калі вы (не пра вас гаворачы) перажываеце развод і чытаеце кнігу, героі якой перажываюць нешта падобнае, — гэта можа даць вам новыя ідэі і спосабы пераадолення праблем.

**6. Чытанне паляпшае памяць.**

Паводле даследаванняў, чытанне — адзін з лепшых спосабаў палепшыць памяць.

**7. Чытанне робіць вас больш... сэксуальнымі.**

Даследаванне паказала, што жанчыны лічаць інтэлект адной з самых прывабных рыс мужчын. І менавіта чытанне звычайна выклікае асацыяцыі з інтэлектам.

**8. Чытанне дапамагае развіць аналітычнае мысленне.**

Так, будучыя юрысты і кандыдаты навук! Чытанне, як сцвярджаюць навукоўцы, дапамагае развіць аналітычнае/сістэмнае мысленне.

**9. Чытанне пашырае слоўнікавы запас.**

Дагэтуль ні адзін іншы спосаб пашырэння слоўнікавага запасу не быў засведчаны такім эфектыўным, як чытанне. І бацькі павінны заахвочваць сваіх дзяцей да чытання як мага больш.

**10. Чытанне набліжае да пісьменства.**

Даследаванне, праведзенае ў Каліфарнійскім універсітэце, паказала, што чытанне таксама паляпшае навыкі пісьма: чытаючы добрую кнігу, вы ўспрымаеце-засвойваеце некаторыя адметнасці стылю аўтара і правапісу.

**11. Чытанне мастацкай літаратуры дапамагае больш суперажываць іншым людзям.**

Даследаванне, праведзенае ва ўніверсітэце Бафала, засведчыла, што — хоць мастацкая літаратура пішацца пра ўяўныя падзеі, — чытанне можа даць вам зразумець іншыя магчымасці, іншыя жыцці, акрамя вашай уласнай. Чытаючы, можна лепш зразумець іншыя культуры, іншы лад жыцця.

**12. Чытанне робіць жыццё працейшым.**

А дырэктар брытанскага праекта «Нацыянальны год чытання» Хонар Уілсан-Флетчар адзначыў, што «чытанне адчыняе дзверы і робіць жыццё працейшым, таму, у рэшце рэшт, нават не важна, што вы чытаеце. Больш за тое, ад чытання вы адчуваеце сябе лепш!».


Адрас электроннай пошты: litaraturnaja.bielarus@gmail.com
З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.